— *Каго любіш?*

— *Люблю Беларусь!*



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

19 ЛІПЕНЯ 1996 г. № 29 (3853) Кошт 2 500 руб.





# У АПЕТЫМ ПАЭТАМІ КРАІ

Вяртаючыся з Міжнароднага фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік", што адбыўся на Пастаўшчыне пры канцы чэрвеня, арганізатары, чыннікі жур[illegible]ы журналісты дазволілі сабе крыху пафантазіраваць і зазірнуць у ліпень, у купалаўскія дні. На мяжы Мядзельскага раёна аўтобус збавіў хуткасць, шумлівыя пасажыры сцішыліся ў чаканні... І нястомны арганізатар многіх фестываляў, начальнік Упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Беларусі Тадэвуш Іванавіч Стружэцкі пачаў захапляючы аповед пра тое, як мяркуецца правесці ў гэтым чароўным Нарачанскім краі Рэспубліканскае свята "Пеўчае поле".

Павольна аб'ехалі мы маляўнічае наваколле легендарнага возера, пабачылі мясцовы помнік, прысвечаны мінулай вайне, — на прыступках якога мусіў размясціцца вялікі зводны хор. Пабачылі вясковы касцёл (у тым самым Кабыльніку, які паводле "савецкага пашпарта" завецца вёскаю Нарач) — месца выступлення знанага народнага хору імя Г. Цітовіча, з праграмай духоўнай музыкі. Пабачылі мурожны бераг, які чакаў чарадзейнага, з рытуальнымі вогнішчамі ды вяночкамі, абраду купальскае ночы...

Зрабіўшы своеасаблівае падарожжа ў зусім блізкую будучыню, пасажыры фестывальнага аўтобуса ўсчалі гаворку пра нескарыстаныя пакуль вартасці гэтых прыгожых мясцін з іх даўнімі пеўчымі традыцыямі. У якім сэнсе — нескарыстаныя? Зноў жа Т. Стружэцкі заўважыў: "Нават калі б сёлета мы і не абвяшчалі фестываль афіцыйна, людзі ўсё роўна, сабраліся б тут на пеўчае свята. Бо на мясцовым узроўні гэтая традыцыя існуе ўжо 43-ці год! І тое, што мы, грунтуючыся на сапраўды народнай і даўняй традыцыі, зрабілі Рэспубліканскі фестываль харавой музыкі, даўшы яму назву "Пеўчае поле" (замест колішніх "Нарачанскіх зор"), — гэта яшчэ не дасягненне мэты. Трэба, нарэшце, будаваць капітальную пляцоўку для гэтага "Пеўчага поля". І не ў Мінску, як гэта ўжо аднойчы, гадоў дзесяць таму, меркавалася, а менавіта тут. Самім Богам, як кажуць, наканавана мець пеўчае поле тут, у Нарачанскім краі".

І сапраўды. Пляцоўка не пуставала б і ў звычайныя, нефестывальныя дні: тысячы курортнікаў, дачнікаў, турыстаў не адмовіліся б хоць разок за сезон выбрацца на канцэрт, бо няма ў зоне адпачынку ніякага "культурнага жыцця", нават кіно зрабілася дэфіцытам. Артысты (можна не сумнявацца!) з прыемнасцю прыязджалі б на добраўпарадкаваную сучасную эстраду, калі б такая з'явілася на Нарачы, — як едуць у Ялту, у Юрмалу...

Зрэшты, фантазіі фантазіямі, але "Пеўчае поле-96" адбылося ў традыцыйных, звыклых умовах: на вольным паветры. Часам — з дожджычкам. Быў у межах фестывалю і конкурс, журы якога ўзначальваў народны артыст Беларусі прафесар Міхась Дрынеўскі. Сярод лаўрэатаў — вядомы маладзечанскі ансамбль песні і танца "Світанак", народны ансамбль песні і танца з Баранавічаў, харавыя калектывы з Віцебска і з Мінска (сталічнае вучылішча мастацтваў).

Некалькі самых сонечных момантаў свята ўпрыгожылі сёння нашы старонкі...

**С. Б.**

*Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ*





Віншуем!

# ЛАЎРЭАТЫ ЛІТАРАТУРНЫХ ПРЭМІЙ









На чарговым пасяджэнні рады праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў прысуджаны штогадовыя Літаратурныя прэміі, у тым ліку — і новая, імя Уладзіміра КАЛЕСНІКА — за лепшыя творы ў галіне крытыкі і літаратуразнаўства.

Першым лаўрэатам яе стаў знакаміты крытык, літаратуразнавец, намеснік дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ за кнігу "Янка Купала. Новы погляд".

Яўген МІКЛАШЭЎСКІ атрымаў Літаратурную прэмію імя Івана МЕЛЕЖА за раман-даследаванне "Каханне і смерць, або Лёс Максіма Багдановіча".

Упершыню звернута ўвага і на публікацыі ў перыядычным друку. А паводле палажэння аб Літаратурных прэміях, яны могуць прысуджацца і за творы, што пакуль не ўвайшлі ў кнігу. Літаратурная прэмія імя Аркадзя КУЛЯШОВА прысуджана Раману ТАРМОЛУ за вершы, змешчаныя ў апошні час у часопісе "Полымя" і ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва".

Літаратурнай прэміяй імя Янкі МАЎРА адзначана кніга паэзіі Уладзіміра МАЦВЕЕНКІ "Сябрынка".

Віншуем лаўрэатаў з высокай ацэнкай іх творчасці, зычым ім новых поспехаў!

# ПАКАЖЫЦЕ ПРЫКЛАД!

## ЛІСТ КІРАЎНІКУ НАШАГА ПАРЛАМЕНТА

Паважаны Сямён Георгіевіч!

З вялікай цікавасцю чытаў Вашы адказы, якія Вы давалі як Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь чытачам "Народнай газеты", змешчаныя ў нумары за 21 чэрвеня г.г. Многае з таго, што Вы гаварылі, прагучала, як надзённыя і хвалюючыя пытанні сённяшняга развіцця нашага грамадства. Падзяляю з Вамі свае думкі і пачуцці, як чалавек творчай прафесіі і як просты грамадзянін суверэннай краіны. Але з адным Вашым адказам не магу пагадзіцца аніяк.

Чытач з г. Вілейкі Антось Рак запытаў у Вас: "Сямён Георгіевіч, калі Вы будзеце весці сесіі на роднай мове?" Вы адказалі вельмі коратка, амаль не задумваючыся: "Калі большасць дэпутатаў будуць размаўляць на роднай мове. Мяркую, што сёння не гэта самая важная з тых праблем, якія існуюць у нашым грамадстве".

Прызнаюся шчыра, мне вельмі дзіўна было пачуць такое з вуснаў кіраўніка вышэйшай заканадаўчай улады, тым больш пасля Вашага знакамітага выступлення перад парламентарыямі на апошняй сесіі Вярхоўнага Савета. Усе жыхары нашай рэспублікі добра ведаюць і помняць, што і да вайны і ў пасляваенны час — заўсёды пасяджэнні сесій Вярхоўнага Савета Рэспублікі вяліся на беларускай мове, калі старшынямі яго былі Максім Танк, Іван Шамякін, Іван Навуменка і зусім нядаўна — Станіслаў Шушкевіч, Мечыслаў Грыб. Помніцца — гэтак рабіў і Іван Фролавіч Клімаў. Кожны старшыня на сесіі гаварыў пабеларуску, нягледзячы на тое, што многія, ці нават большасць дэпутатаў выступалі і гаварылі на рускай мове. Гэта іх права. Але ж Вы — першы заканадаўца ў краіне. На Вас глядзіць, да Вас прыслухоўваецца ўвесь наш народ. І вашыя спадзяванні, паважаны спікер парламента, на тое, што ўсе дэпутаты хутка пяройдуць на родную мову пры існуючых сёння законах, будуць выступаць і прымаць рашэнні пабеларуску, — марная надзея. Калі ў гэтай справе не пакажаце прыклад першым Вы самі, як Старшыня Вярхоўнага Савета, то так яно будзе да канца існавання яго ў трынаццатым скліканні.

На гэтым бы мне скончыць свой кароткі ліст. Але хочацца дабавіць толькі адно: ці не час ужо ўсім нам падумаць аб такім важным пытанні — на якой мове павінен працаваць вышэйшы орган той рэспублікі, якую ён прадстаўляе перад сваім і перад усімі народамі свету?

З павагай да Вас і ўсіх вашых калег

**П. Ф. ПРЫХОДЗЬКА,**
**паэт, ветэран і інвалід Вялікай Айчыннай вайны**

*24 чэрвеня 1996 г.*

Надзённае

# НЕ ТРЭБА ВОРАГАЎ ШУКАЦЬ...

**Не трэба ворагаў шукаць**
**у роднай хаце.**
**Не трэба годнасць зневажаць**
**Тых, хто наважыўся падняць,**
**Як паднімаў араты гоню,**
**Святую спадчыну сваю —**
**Наш старажытны**
**герб Пагоню.**

**Не трэба ворагаў шукаць**
**Сярод сваіх братоў,**
**не трэба!**
**Не трэба дзецям замінаць**
**Сугучны з часам шлях шукаць,**
**не трэба!**
**Бо заўтра жыць не нам, а ім,**
**Крывінкам нашым дарагім.**

**О, Божа, ты з бяздоння неба**
**Скажы, што гэтага не трэба,**
**Не трэба, чуеце, не трэба!**

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ**
*г. Слаўгарад*

каб сказаць, як няпроста ўсё было ў нашым нядаўнім мінулым. Няпроста і супярэчліва... Прыгадалася з іншай нагоды. Дваццаць гадоў мінулася, а так і не знайшлося магчымасці перавыдаць творчасць Цёткі... На шчасце, сам юбілей адзначан шырока.

Ініцыятыва ж з'явілася з боку прэзідэнта Усебеларускага жаночага фонду імя Ефрасінні Полацкай В. Коўтун. Валянціна Міхайлаўна, на рахунку якой арганізацыя многіх цікавых мерапрыемстваў (найперш па ўшанаванні памяці самой першаасветніцы, а таксама Геніюш), канечне ж, не магла забыцца пра 120-годдзе Цёткі, паколькі, як вядома, даўно прыглядаецца да яе жыцця і творчасці, з'яўляецца аўтарам выдатнага рамана пра Цётку "Крыж міласэрнасці". Ініцыятыву В. Коўтун ухвалілі ў Шчучынскім райвыканкаме. Знайшла яна падтрымку і ў Саюзе пісьменнікаў, і ў Міністэрстве культуры Беларусі.

1996 год на Шчучыншчыне быў, па сутнасці, аб'яўлены годам Цёткі. Ва ўсякім разе, планавалася шэраг цікавых і значных мерапрыемстваў, звязаных з актывізацыяй творчай актыўнасці таленавітых шчучынцаў. Гэта і розныя агляды, конкурсы, вечарыны, сустрэчы. Не засталася ўбаку і рэдакцыя раённай газеты "Дзянніца", на старонках якой было змешчана каля 30 розных публікацый, прысвечаных жыццю і дзейнасці выдатнай зямлячкі, а таксама мастацкіх твораў. Рупіліся шчучынскія ўлады і аб тым, каб помнік пясняркі заняў сваё месца ля Палаца культуры ў Шчучыне. І паступова рыхтаваліся да цётчыных народзін, якія пачалі святкаваць 3 ліпеня — менавіта ў гэты дзень па старым стылі і з'явілася яна на свет у фальварку Пешчына.

Працягам жа ўрачыстасцей стала 7 ліпеня. Акурат у гэты дзень на радзіму паэтэсы завітала прадстаўнічая дэлегацыя з Мінска, у складзе якой былі вядомыя пісьменнікі, дзеячы нацыянальнай культуры, журналісты, прыхільнікі неўміручага таленту Цёткі. Першая сцяжына прывяла гасцей у вёску Стары Двор, якая стала апошнім прыстанішчам Цёткі. Як вядома, у пачатку студзеня 1916 года яна атрымала звестку, што цяжка захварэў бацька. Паспяшалася, але, на жаль, яго ў жывых не заспела. Аднак пасля пахавання бацькі са Старым Дваром не развіталася. У Лідскім павеце пачалася эпідэмія тыфу, і Цётка лячыла хворых. Многіх ўратавала, а вось сябе не ўберагла. У Старым Двары і была пахавана...

Госці ўсклалі на магілу кветкі. З прачулымі словамі выступілі В. Коўтун, сакратар рады Саюза пісьменнікаў У. Паўлаў, А. Вярцінскі, які, да ўсяго, прачытаў і верш "Магіла пры дарозе", што быў напісаны пад уражаннем святкавання 100-гадовых Цётчыных угодкаў.

Асноўныя ўрачыстасці прайшлі ў Шчучыне. У Палацы культуры было людна, а ці не гэта найлепшае пацверджанне любасці да той, хто жыў і тварыў з верай у шчаслівую будучыню Беларусі, для каго сама свабода была непадзельна ад нацыянальнага разняволення?!

Першым слова ўзяў старшыня Шчучынскага райвыканкама В. Казяк. Нешматслоўным быў Віктар Іванавіч, ды здолеў сказаць усё наконт таго, кім ёсць для шчучынцаў і кім назаўсёды застанецца Цётка. Вядучай сустрэчы, як старшыня грамадскага камітэта па святкаванні 120-годдзя слыннай пясняркі, была В. Коўтун. Па яе словах, Цётка — той анёл нябесны, які зляцеў аднойчы на зямлю, каб сваімі дзеяннямі пачаць на ёй жаночы рух. Канечне, былі ў Цёткі і вялікія папярэдніцы, тая ж Ефрасіння Полацкая, але менавіта яна, Цётка, стала выказнікам думак лепшай часткі грамадства (і ці не ў першую чаргу спадзяванняў перадавой часткі жанчын) у новых сацыяльна-гістарычных умовах...

Цётка, сказаў у сваім выступленні дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АНБ, акадэмік В. Каваленка, належыць да адраджэнцаў, якія адчынілі дзверы беларускай літаратуры XX стагоддзя. А за Цёткай, як і за іншымі першапраходцамі, ішлі наступнікі. Тое, што знайшло адлюстраванне ў яе творчасці, тым самым знаходзіла свой арганічны працяг. В. Каваленка правёў і некалькі цікавых паралеляў. У прыватнасці такую: тэма, што была ўзнята Цёткай у яе апавяданні "Прысяга над крывавымі разорамі", па-новаму асэнсавана ў "Новай зямлі" Я. Коласа. Віктар Антонавіч адзначыў і пасіянарнасць Цёткі. Дарэчы, на гэтым моманце засяродзіў увагу прысутных і П. Васючэнка.

Песнярка, зацікаўленая нацыянальным лёсам — такой найперш бачыцца Цётка І. Багдановіча. Сваё ўспрыманне паэтэсы і ў іншых выступоўцаў — У. Дзіско, А. Петрушкевіч, Л. Давідоўскай, В. Ляшук, Г. Запартыкі, П. Маляўкі... Усе яны ў той ці іншай ступені звярталіся да яе творчасці. І ўсе яны пераканаяы ў адным: волаты духу, падобныя да Цёткі, з'яўляюцца ў народа ў лёсавызначальныя перыяды. Таму так важна вяртанне да яе творчай спадчыны, да яе жыцця сёння.

Г. Шупенька ўручыў В. Коўтун карэктуру яе рамана "Крыж міласэрнасці", які ў хуткім часе пабачыць свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура", Г. Запартыка падарыла шчучынцам копіі дакументаў, звязаных з жыццём і дзейнасцю Цёткі, што захоўваюцца ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіва-



музея літаратуры і мастацтва... А. Вярцінскі не толькі пераканаўча гаварыў пра месца і ролю Цёткі ў нашым сённяшнім дні, а і прачытаў свой верш, напоўнены адраджэнскімі матывамі. Ён успрымаецца як свайго роду працяг той адраджэнскай справы, якой прысвяціла сваю дзейнасць Цётка і адначасова гэта пазіцыя нашага выдатнага сучасніка, заклапочанага ідэямі нацыянальнага Адраджэння...

А пасля слова ўзяла загадчык раённага адзела культуры А. Максімовіч. Таксама праводзіліся вынікі розных конкурсаў, што праходзілі на Шчучыншчыне ў сувязі з юбілеем Цёткі. Уручаліся шматлікія ўзнагароды. Дзесяткі пераможцаў — усіх і назваць не выпадае. Але нельга не ўспомніць самую юную

*(Працяг на стар. 4)*

Варункі

# "ЗДУБАВЕЦЦЕ"

**Сапраўдным бестселерам года можна назваць новую кніжку Рыгора Барадуліна "Здубавецце". Паспрабуйце яе знайсці і набыць — і ў вас нічога не атрымаецца. У ёй Рыгор Іванавіч сабраў і не пабаяўся выдаць тую частку свайго вушацкага беларускага фальклору, якая багатая на мацюгі і датычыць двухсэнсоўных, часта фрывольных жыццёвых сітуацый.**

**Трэба адразу адзначыць, што такі фальклор у жыцці беларуса быў да месца толькі пры пэўных выпадках — ці на вяселлях, калі таго патрабавала вясельная абраднасць, замешаная на яшчэ паганскіх рытуалах, ці падчас гулянняў, вячорак, калі тэмпература там уздымалася да адпаведнага ўзроўню.**

**Прачытаўшы ўсё сабранае Р. Барадуліным, можна яшчэ раз пераканацца ў тым, што беларусы — праўдзівыя пераемнікі славянаў, калі браць пад увагу тое, што пра тых казалі старажытныя летапісы. Яны любяць незласліва пасмяяцца, маюць лёгкі, незлапамятны характар ды й увогуле — вясёлая нацыя, багатая на разумныя галовы.**

**Гэта фальклор не толькі пэўнай сітуацыі, але й адпаведнага ўзросту. Пагодзімся, што тое, што здаецца вельмі смешным і цікавым у 18, у 60 ужо выклікае паблажлівую ўсмешку. Такі ток жыцця.**

**Што тычыцца арыентацыі ў часе, дык мяне найбольш уражваюць матывы яшчэ з прыгонных часоў. Вось ужо амаль паўтара стагоддзя, як адмянілі прыгон, а песні пра дваровых запісваюцца яшчэ й зараз.**

**Чытаючы гэтыя прыпеўкі, прыказкі ды показкі, разумееш усю марнасць патугаў русафілаў даказаць, што беларуская мова — гэта "наречие" суседняга "языка". Іншая справа, што й нашыя занадта даверлівыя да расійскай прапаганды беларусы не лічаць беларускую мову за каштоўнасць, якую неабходна абараняць, захоўваць і перадаваць сваім дзецям.**

**Пакуль жывая беларуская мова ў вёсках, датуль яна будзе блішчэць залатым россыпам народнае творчасці. І пакуль будуць жыць беларусы, датуль будуць утварацца смешныя сітуацыі ў нашым штодзённым жыцці. Варта, мабыць, не праходзіць, не зважаючы, а збіраць і запісваць пачутае, як зрабіў гэта Рыгор Іванавіч — няхай застаецца.**

**Пры канцы варта адзначыць добрае арыгінальнае афармленне зборнічка, што выйшаў у "Паліфаксе" Яўгена Будзінаса, які, на жаль, зрэдку, затое якасна друкуе і беларускія кніжкі.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## КАНЦЭРТ-СПРАВАЗДАЧА



**Вялікай папулярнасцю ў Віцебскай школе мастацтваў карыстаецца аддзяленне харэаграфіі. Днямі яго выхаванцы прадэманстравалі сваё майстэрства перад гараджанамі. На сцэне абласной філармоніі з поспехам прайшоў іх справаздачны канцэрт.**

*На здымку: выступаюць выхаванцы аддзялення харэаграфіі.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## ... І ПОЗІРК У ЗАЎТРА

**Як цяжка ні даводзіцца, а дзяржаўныя выдавецтвы працуюць і на перспектыву. "Юнацтва" — таксама не выключэнне. Нядаўна ў кнігарнях з'явіўся яго тэматычны план выпуску літаратуры на 1997 год. Вядома, пазіцый у ім куды меней, чым было, скажам, гадоў шэсць-сем назад, ды і некаторыя назвы пераносяцца з іншых гадоў. Тым не менш плануюцца выданні, якія, несумненна, знойдуць свайго ўдзячнага чытача. Для прыкладу, "Бібліятэка беларускай дзіцячай літаратуры" папоўніцца зборнікам "Згукі Бацькаўшчыны", у які ўвойдуць творы беларускай літаратуры ад сярэднявечча (пачынаючы ад Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага) і да пачатку XX стагоддзя, а таксама кнігай "Цудоўная дудка" (укладанне С. Лаўшука), змест якой складуць п'есы З. Бядулі "Салавей", В. Вольскага "Цудоўная дудка", А. Вярцінскага "Дзякуй, вялікі дзякуй!", В. Лукшы "Чароўны камень", А. Вольскага "Граф Глінскі-Папялінскі" і іншыя. Чарговыя кнігі чакаюцца і ў другой папулярнай серыі — "Бібліятэка замежнай дзіцячай літаратуры". Гэта — казкі Братоў Грым, аб'яднаныя назвай "Брэменскія музыкі", і "Легенды і міфы Старажытнай Грэцыі".**

**Для самых маленькіх падрыхтаваны кніжкі-цацкі "Лясны тэатр", "Пунсовыя ветразі", "Хто як размаўляе", кніжка-расфарбоўка "Слуцкія паясы", дашкольнікам і малодшым школьнікам адрасуюцца зборнікі фальклору "Доджык, дожджык, сыпані", "З крыніц адвечнай прыгажосці", "Пакацігарошак", кнігі Г. Багданавай "Чароўны абрус", Я. Брыля "Цуды ў хаціне", А. Вялюгіна "Вада і вуда", В. Гардзея "Зайкава балалайка", С. Грахоўскага "Я ўсё ўмею", М. Дуксы "Нябесны карнавал", С. Папара "Золкая зёлка", У. Паўлава "Дазор на Сухой Мілі", П. Прыходзькі "Дзе начуе вецер?", А. Савіцкага "Прыгоды Муркі", У. Скарынкіна "Падарожжа ў Крайшарад", Э. Скобелева "Новыя незвычайныя прыгоды Арбузіка і Бябешкі", М. Скоблы "Камень-перунок", М. Танка "Журавель і Чапля", Я. Хвалея "Каця на планеце радапедаў" і іншыя.**

**Рыхтуюцца факсімільныя выданні "Другога чытання для дзяцей беларусаў" Я. Коласа і "Першага чытання для дзетак беларусаў" Цёткі.**

**Не будуць абыдзены ўвагай і вучні сярэдняга школьнага ўзросту, а таксама старшакласнікі. "Млын на сямі колах" — пад такой назвай выходзіць кніга народных легендаў і паданняў, сабраных і апрацаваных І. Масляніцынай. Рыхтуюцца да выдання раман А. Афяроўскага "Двое на тонкім лёдзе", чарговы зборнік гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына" (укладальнік С. Панізнік), кніга аповесцяў і апавяданняў Г. Далідовіча "Кліч роднага звона", аповесці, апавяданні, замалёўкі А. Капусціна "Белыя коні з казкі", аповесці Аляксея Якімовіча "Пастка для пярэваратня" і іншыя.**

**Запланаваны таксама перакладныя творы пісьменнікаў блізкага і далёкага замежжа.**

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ



АКСЁНЧЫК Ніна Канстанцінаўна. Паэт, крытык, літаратуразнаўца. Нарадзілася ў 1961 годзе ў вёсцы Вятцы Жыткавіцкага раёна. Скончыла Мазырскі педагагічны інстытут(1982), аспірантуру ў Мінскім падінстытуце (1987). Кандыдат філалагічных навук. Дацэнт кафедры беларускай літаратуры Мазырскага педагагічнага інстытута.

Літаратурную працу пачала ў 1981 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі "Споведзь арабіны" (1995), публікацыі ў перыёдыцы і калектыўных зборніках. Рэгулярна выступае з рэцэнзіямі на новыя кнігі і артыкуламі, прысвечанымі надзённым праблемам развіцця беларускай літаратуры і выкладання яе.

АНТАНОЎСКІ Мікола Дзмітрыевіч. Паэт. *Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Сташаны* Пінскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1978). Рэдактар пружанскай раённай газеты "Раённыя будні".

Літаратурную працу пачаў у 1972 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі "Святаяннік" (1993), публікацый у перыёдыцы, калектыўных зборніках.

БЕЛЫ Сымон Міхайлавіч. Крытык, публіцыст. Нарадзіўся ў 1929 годзе ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Скончыў Мінскі інстытут замежных моў (1956). Да выхаду на пенсію выкладаў англійскую мову ў Радашковіцкай сярэдняй школе.

Заслужаны настаўнік Беларусі.

Літаратурную працу пачаў у 1972 годзе.

Аўтар кнігі пра Я. Коласа і яго акружэнне "На бацькоўскай зямлі" (1993), успамінаў, крытычных і публіцыстычных артыкулаў у перыёдыцы.

КАРЭНДА Іван Арсеньевіч. Паэт. Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Крывічы Іўеўскага раёна. Скончыў Гродзенскі педагагічны інстытут імя Я. Купалы (1971) і Вышэйшую школу пры ЦК ВЛКСМ (1976). Намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь.

*Літаратурную працу пачаў у 1971 годзе.*

Аўтар кнігі паэзіі "Белы наліў" (1995), п'есы "Залатыя яйкі" ("Тэатральная Беларусь", 1993, N 2), публікацый у перыёдыцы.

Марцін КОЎЗКІ (МАРЦІНКОЎСКІ Міхаіл Барысавіч). Сатырык, гумарыст. Нарадзіўся ў 1923 годзе ў горадзе Сянно. Скончыў Краснаярскі педагагічны інстытут (1951).

Літаратурную працу пачаў у 1959 годзе.

Аўтар кніг "Крыштальная душа" (1983), "Кубік Рубіка" (1987), "Доля праўды" (1995), падборкі ў калектыўным зборніку "І ў хвост і ў грыву" (1976), шматлікіх публікацый у перыёдыцы.

РАГАЎЦОЎ *Васіль Іванавіч. Паэт, крытык,* літаратуразнаўца. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў мястэчку Стрэшын Жлобінскага раёна. Скончыў Мазырскі педагагічны інстытут (1973). Кандыдат філалагічных навук, прафесар. Загадчык кафедры беларускай мовы Магілёўскага педагагічнага інстытута.

Літаратурную працу пачаў у 1968 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі "Сутонне" (1995), паэтычных падборак у перыядычным друку. Выдаў навучальныя дапаможнікі "Уводзіны ў мовазнаўства" (з А. Юрэвічам, 1987), "Моўны разбор у ВНУ і школе" (з С. Кечык, 1988), "Практыкум па ўводзінах у мовазнаўства" (1989), "Уводзіны ў мовазнаўства" (1992). Адзін з сааўтараў "Матэрыялаў для абласнога слоўніка Магілёўшчыны" (1981).

ТАРАСАЎ Сяргей Васільевіч. Празаік, публіцыст. Нарадзіўся ў 1961 годзе ў Мінску. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут (1982). Працуе ў Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі.

Літаратурную працу пачаў у 1982 годзе.

Аўтар кніг "Чарадзей сёмага веку Траяна. Усяслаў Чарадзей" (1991), "Вясёлы ветрык" (1993), публікацый у калектыўных зборніках. Адзін з аўтараў кніг "Праз смуту стагоддзяў" (1993), "100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі" (1994), напісаў сцэнарыі мастацкіх фільмаў "Прыйдзі і віждзь..." (1991), "Пастка для зубра" (фільм І "Ягайла" , фільм ІІ "Вітаўт" (1995), дакументальных — "Для вас, сучаснікі мае..." (фільм І "Ефрасіння. Рагнеда", 1987, фільм ІІ "Усяслаў Чарадзей. Кірыла Тураўскі", 1989).

ПРАВАСУД Уладзімір Рыгоравіч. Паэт, сатырык, гумарыст, публіцыст. Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Подгаць Акцябрскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1970). Літработнік аддзела літаратуры часопіса "Вожык".

Літаратурную працу пачаў у 1956 годзе.

Аўтар кніг паэзіі "Бабрыная справа" (1973), *"Соль і перац"* (1976), *"Любоў без узаемнасці"* (1979), "Пабрацімы" (у перакладзе на якуцкую мову, Якуцк, 1981), "Цешча і аўтамабіль" (1984), "Прыкарытнікі" (1995), прозы і публіцыстыкі "Палескі Марэсьеў" (1967), "Ветэран" (1968), "Светлая доля" (1975), "Зайздросны лёс" (1977), "Народжаны рэвалюцыяй (1979), "Працоўны поўдзень" (1983), "Бамаўцы" (1984), "Маўклівая пушча" (1989) і іншых, а таксама шэрагу публікацый у калектыўных зборніках і перыёдыцы.

ШАХРАЙ Ілья Аляксандравіч. Дзіцячы пісьменнік. Нарадзіўся ў 1938 годзе ў Мінску. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут (1967). Да выхаду на пенсію па стане здароўя працаваў інжынерам.

Літаратурную працу пачаў у 1956 годзе.

Аўтар кніг "Пралеска" (1963), "Пра Ганульку і Барыску" (1965), "Зялёны ветразь" (1966), "Выдумшчыкі, напаўвыдумшчыкі і іншыя" (1975), "Як вынайшлі бурбалкі" (1977), "Птушка шчасця" (1991), сцэнарыя навукова-папулярнага фільма "Цені" (1969), дакументальных фільмаў "Мой тата — Айбаліт" (1970), "Сцягі і людзі" (1972), "Паўсантыметра ад сэрца" (1975).

# СТАЛА ПЕСНЯЙ У НАРОДЗЕ

*(Працяг. Пачатак на стар. 2-3)*

ўдзельніцу — Анжэлу Жук. Дзяўчынка любіць вершы Цёткі, ведае іх на памяць, у час аглядаў-выступ-ленняў самадзейных артыстаў яна выконвала ролю Сірацінкі, што, як вядома, прысутнічае ў адным з твораў паэтэсы... А сёстры Астахавы ў час уручэння прызоў выканалі песню "Вёска мая", напісаную мясцовым кампазітарам У. Суэціным на верш Цёткі...

Урачыстасці атрымалі працяг на пляцоўцы *ля Палаца культуры, дзе адбылося адкрыццё* помніка Цётцы. Выступілі старшыня райвыканкама В. Кізяк, У. Паўлаў, В. Коўтун, намеснік начальніка аддзела культуры Гродзенскага аблвыканкама В. Губіч, А. Вярцінскі, сакратар рады Саюза пісьменнікаў А. Пісьмянкоў, паэт-бард В. Пазнякевіч...

Памятае зямля шчучынская, зямля беларуская сваю пясьнярку. Памятае, бо Цётка паранейшаму з намі, яна — наша сучасніца, тое, што хвалявала і непакоіла яе, блізкае і нам... *Прароцкімі ўспрымаюцца словы, прамоўленыя* Цёткай яшчэ ў 1905 годзе ў вершы "На магіле":

**На магіле ўзыду дубам,**
**Пачну шаптаць братнім губам**
**Аб іх долі, аб свабодзе,**
**Стану песняй у народзе!**

Яна і на самай справе стала песняй у народзе...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Фота Л. КЛЫШКО*





***Кожная сустрэча сяброў маладзёжнай суполкі "Літаратар" з нашымі вядомымі паэтамі і пісьменнікамі (а ў рэдакцыі "Першацвета" гасцявалі ўжо Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Алег Лойка і інш.) атрымліваецца цікавай і незабыўнай, сапраўды творчай і па-юначы ажыўленай... Не стала выключэннем сустрэча маладых літаратараў і з народным пісьменнікам Беларусі, акадэмікам Іванам Якаўлевічам Навуменкам. Апошні, відаць, і не спадзяваўся ўбачыць столькі першацветаўцаў, бо неяк міжволі падчас гутаркі падзівіўся: "Сёння, калі так сонечна і цёпла, можна было б дзе-небудзь на эстрадзе модныя пласцінкі слухаць, а вы паклікалі старога дзядзьку дый выслухоўваеце ягоныя рэчытатывы. Мне гэта трошкі дзіўна. Нейкая рэдкая моладзь! Малайцы!"***

***Першацветаўцаў жа, якія напачатку моўчкі-зачаравана выслухалі аповяд пісьменніка пра сваё жыццё, а затым закідалі таго пытаннямі, цікавіла ў Іване Якаўлевічы літаральна ўсё: яго дзіцячыя захапленні і дарослыя клопаты, літаратурныя сімпатыі і палітычныя пазіцыі, жыццёвае крэда і эстэтычныя перакананні і г. д. і г. д. Зрэшты, не будзем забягаць наперад, а паслухаем самога пісьменніка і яго суразмоўцаў...***

# ДАВАЙЦЕ ВЕРЫЦЬ У ЧАЛАВЕКА

## З ІВАНАМ НАВУМЕНКАМ ГУТАРАЦЬ СЯБРЫ ЛІТАБ'ЯДНАННЯ "ЛІТАРАТАР"

**— Іван Якаўлевіч, у сваёй "Аўтабіяграфіі" вы адзначаеце два найвялікшыя ўражанні дзяцінства — птушак і кнігі. Раскажыце, калі ласка, пра другое з іх. Ці не ўзгадаеце штосьці незвычайнае з гісторыі вашага ранняга сяброўства з кніжкамі?**

— Першую кніжку я прачытаў на рускай мове — "Сказки и правда о небе". А калі мне ўпершыню трапілася ў рукі беларуская кніжка, яна выклікала ў душы незвычайнае хваляванне. Я ўзрадаваўся, я ў захапленні быў ад таго, што, як аказалася, на нашай гаворцы можна кніжкі пісаць. Гэта было першае адкрыццё!

Увогуле ж кніжкамі я пачаў захапляцца недзе з другога класа. І ўжо ў класе шостым марыў: вось каб гэта які-небудзь конкурс і каб сабраліся ды спыталі, якую кніжку я не чытаў. І такой кніжкі, вядома, не аказалася б — так тады мне здавалася... Але я, і сапраўды, перачытаў шмат. Беларускіх пісьменнікаў ведаў усіх. Дарэчы, пры мне, недзе, калі я вучыўся ў пятым-шостым класе, пачалі вырываць старонкі з Платонам Галавачом, Цішкам Гартным. "Сокі цаліны", напрыклад, я так і не паспеў прачытаць у дзяцінстве, бо знялі са школьнай праграмы. Ведаў і рускую, і замежную класіку, канешне... Бібліятэк у Васілевічах было шмат, пяць ці шэсць, здаецца, і я ва ўсе быў запісаны. Бібліятэкарка ў сельсавецкай бібліятэцы мяне проста зненавідзела. Хацела даваць мне тоненькія кніжкі, а я тоненькіх не браў. Што тоненькая? — пакуль дадому зайсці, я мог яе прачытаць. І таму браў пераважна тоўстыя. А за што зненавідзела? За тое, што я і тоўстую за ноч адольваў, а назаўтра прыходзіў за новай, і ўсё рыўся, корпаўся ў тых шафах... А вось у бібліятэцы леспрамгаса быў ліберальны чалавек — ён нічога ў бібліятэчнай справе не разумеў, мог даць і тры кніжкі, што мяне страшэнна радавала...

**— Іван Якаўлевіч, пасля вайны вы працавалі журналістам. Ці дапамагла вам праца газетчыка як літаратару?**

— Сапраўды, прыкладна шэсць гадоў пасля дэмабілізацыі я працаваў карэспандэнтам мазырскай абласной газеты "Бальшавік Палесся": шастаў, ездзіў па калгасах, вывучаў жыццё... Але скажу вам адно: газета і памагае чалавеку літаратурнаму, і шкодзіць. Яна прывучае глядзець на жыццё толькі праз вакно факта, канкрэтыкі. Спрабаваў я фантазіраваць: скажам, сонца ўзыходзіць, раса серабрыцца. А загадчык сельгасаддзела (Віслоў быў такі) выкрэсліваў усё гэта: маўляў, адкуль я ведаю, што ў той дзень сонца ўзышло дый яшчэ раса блішчэла... Праўда, я вершы пісаў па-беларуску, безумоўна, і друкаваў іх, дык тут ужо ніхто не мог нічога зрабіць...

**— Вы пісалі вершы?**

— І нават зборнік хацеў выдаваць. Але добра, што яго не выдаў, бо, хаця падчас і траплялiся ніштаватыя, усё ж пераважна гэта былі казённыя вершы, накшталт, "Ішоў ён полем, брыгадзір чацвёртае брыгады, на ніве гэтай камандзір і першы сам араты". Альбо вось пра каханне: "Ты ўсхваляваная стаяла ля дошкі з думкаю адной. Яна вілася ў інтэгралах, каб выйсці формулай скупой..." А адзін верш я нават Сталіну прысвяціў: "За росквіт нашых сёл, за гул заводаў, за гоман трактароў — прымі падзяку вечную, народаў нашых родных друг і правадыр..." Далей не памятаю, але нешта такое. Ці ж гэта творчасць?..

**— Дзе і калі вы надрукавалі свае першыя творы? І ці лёгка вам даліся першыя літаратурныя крокі?**

— Калі гаварыць пра вершы, то дзесяткі два я надрукаваў у абласной газеце. Друкаваліся яны нават і ў "Чырвонай змене", і ў "ЛіМе" — гэта так даўно было, 46-ы, 47-ы, 48-ы гады. Але я не лічу іх першымі творамі, паколькі я празаік усё-такі.

Першае апавяданне пад назвай "Інтэрнацыянал" я хацеў надрукаваць у абласной газеце. Сюжэт быў такі: партызаны трапілі ў акружэнне, выхаду не было, але яны мабілізаваліся, сабралі свае духоўныя сілы, заспявалі "Інтэрнацыянал" і прарваліся. Адказны сакратар прачытаў і кажа: "Знаеш што, калі б у іх не было патронаў, гранат, то наўрад ці яны б прарваліся..."

У 1950-я гады я працаваў у "Маладосці", загадваў рознымі аддзеламі, і мяне часта пасылалі ў камандзіроўкі. Аднаго разу — каб выкрыў я нейкага там шамана, які тлуміць людзям галовы. І я падумаў: а чаго мне ехаць? Няўжо я не магу сам выдумаць? І сеў-напісаў гумарэску. Гэта было ў 1954 годзе, і называлася яна "Ганьба святога Лукі". Але і яе не трэба лічыць за пачатак. Першыя апавяданні, якія лічу сапраўднымі, з'явіліся ў 55-м, іх было адразу два — "Сідар і Гараська" і "Эх, махорачка". У "Маладосці" выйшлі. Тэма — хлопцы ў вайну, маё пакаленне. Я гэта ведаў і так, уласна кажучы, і пісаў...

Першы раман "Сасна пры дарозе" выйшаў у 1962 годзе. Я вам скажу, што не збіраўся пісаць ніякіх раманаў. Мы ў адным пакоі жылі з Адамовічам, а ён усё пісаў тады сваю "Войну под крышами". Гэта ў нейкай ступені падштурхнула і мяне. Думалася, што і я ж не менш сябе ведаю: партызаны, падполле... Вось і напісаў "Сасну пры дарозе". Ну, а ўжо наступныя кніжкі — "Вецер у соснах", "Сорак трэці" — тут я і з партызанамі пачаў сустракацца, і ў архівах пасядзеў, таму што майго асабістага вопыту і не хапала ўжо...

**— Іван Якаўлевіч, светапогляд пісьменніка абумоўліваецца, сярод іншых фактараў, і эпохай, у якую ён нараджаецца як творца. Як бы вы цяпер акрэслілі час вашага ўваходжання ў літаратуру? Ваша пакаленне пісьменнікаў сталася надзвычай адметным у нашай літаратуры. Чым жа, як вы думаеце?**

— Той час быў няпростым. Але было такое адчуванне (і я гэта выразіў у аповесці "Любімы горад"), што паправіцца як-небудзь... Вайна ж таксама пачыналася вельмі дрэнна — з адступленняў, акружэнняў, паражэнняў. Здавалі гарады, потым прыходзілася іх браць назад. Усё было разбурана, знішчана. Я сам гэта бачыў. У адным нашым раёне недзе з 60 вёсак 44 былі спалены. І разам з тым вайна ўсё-такі была пераможная. Гэта давала нейкую надзею, крылы. І я вам хачу сказаць, што досыць хутка грунт для аптымізму з'явіўся. Усё ж такі Мінск і ўся Беларусь даволі хутка падымаліся. Можа, тут штосьці і паказное было, але дабрабыт рос даволі імкліва. У 47-м была праведзена грашовая рэформа, адмянілі камерцыйныя цэны на хлеб, хлеб стаў вольны, яго стала хапаць. У вёскі, вядома, не завозілі, лічылася, што калгаснік і так мае хлеб. Але калгаснік мог усё-такі паехаць, скажам, у Рэчыцу, прадаць там пеўня ці курыцу і купіць буханкі дзве-тры. І цукар ужо з'явіўся. І вось я студэнтам у 48-м за дзесяць рублёў мог купіць ужо дзвесце грам кілбасы... Словам, дабрабыт, паўтару, рос імкліва, і грунт для аптымізму быў...

Што ж было за плячамі ў мяне як у пісьменніка? Па-першае, юнацкія мары. У дзяцінстве — лес, грыбы, птушкі... Гэта ж столькі яны навеялі ўсякіх мараў! Ну, а там, дзе мары, там і дзяўчына. Марылася: вось яна сустрэнецца, я зраблю нейкі подзвіг, прыйду да яе і, так сказаць, пакладу ля яе ног гэты подзвіг, і яна ў аддзяку за яго палюбіць мяне, пакахае... Такое рамантычнае было мысленне. А, па-другое, за плячамі засталася вайна. І было адчуванне свайго пакалення. Канешне, не ўсе з гэтага пакалення былі рамантычнымі. У асноўным яно наогул загінула. У нас з дзесятага класа пайшлі, па-мойму, 16 чалавек на фронт, а вярнуліся пяць ці шэсць толькі; дзве трэці, значыць, загінулі. Маладыя былі, хавацца не ўмелі, ды і старэйшыя, вядома ж, гінулі таксама... Я пісаў апошнюю сваю аповесць з біяграфічнага цыкла — "Любімы горад" — і адчуваў (пішаш жа не розумам, а пачуццём, падсвядомасцю), што дзесьці ўсё-такі мінор, сумна. Чаму сумна? А таму, што тыя хлопцы, з якімі я радаваўся, марыў, якіх я ведаў, — яны ж не вярнуліся. І вось гэты налёт — я цяпер ужо і розумам дайшоў — ляжыць на гэтай аповесці... Словам, вайна ёсць вайна, жорсткая, крывавая. І ўсё ж маё пакаленне не было страчаным, якое Рэмарк апісаў. Гэта быў час, калі моладзь, пераважна сялянская альбо хай сабе рабочая (напрыклад, мой бацька працаваў чыгуначнікам) цягнулася ў вялікі свет — свет навукі, культуры. І нават недзе гэтае пакаленне і прайгравала — яно залішне цягнулася і не ўмела выконваць празаічныя рэчы. Я, праўда, навучыўся касіць (карова ў нас была), зграбаць (добра зграбаў, копы клаў), але ўжо араць, скажам, не навучыўся: каня бацька аддаў у калгас, калі мне было дзесяць гадоў. Хаця запрагаць я ўмею і каня ведаю, люблю: вадзіў на папас, хацеў нават, каб настаўніцы альбо дзяўчаты з класа паглядзелі, як я скачу на гэтым кані — наўскачкі, гэта значыць, галопам, альбо трушком... Карацей кажучы, мы не былі адарваны ад вялікай сялянскай культуры, неабходнасць прымушала нас гэта ведаць, хаця сёе-тое, канешне, упусцілі...

**— Нават і не выпадае, Іван Якаўлевіч, пытацца ў вас, пісьменніка біяграфічнага, і ўсё ж... Што для літаратара значыць біяграфія?**

— Біяграфія пісьменніку вельмі трэба. І гэта — несумненна. Але, можа, яшчэ больш патрэбна яму нейкая ўнутраная біяграфія. Кнігі проста не пішуцца, яны высяпваюць дзесьці ў душы, яны менавіта нараджаюцца дзякуючы душэўнаму запасу, якім валодае аўтар...

Ёсць такія пісьменнікі, якія вельмі многа і не ездзілі і не бачылі. Вунь той жа Жуль Верн — дык ён далей Луўра ў Парыжы і не ездзіў. Альбо наш Янка Маўр. Сёе-тое ведаў, канешне, перапісваўся з настаўнікамі, будучы аспірантам. Але ж колькі ён унёс свайго! І няхай "Палескія рабінзоны" і падобны да жульвернаўскага "Таямнічага вострава", але Янка Маўр — беларус, і мы добра-такі адчуваем Палессе, калі яго чытаем. Праўда, там грыбы смарчкі пяклі ў попеле і елі, а іх так не ядуць: патруціліся б тыя хлопцы, калі б так было. Гэтага Янку Маўру не падказаў ніхто...

З чаго ж усё-такі пачынаецца пісьменнік? Відаць, з нечага вельмі канкрэтнага. Я і цяпер, калі не спіцца, а пад старасць часта не спіцца, — што ўспамінаю? Краявіды... Са сваіх Васілевічаў у 51-м я ўжо выехаў назаўсёды, а сказаць па шчырасці — я да Мінска яшчэ і сёння не прывык як след, па-сапраўднаму. Гэта — раз. А па-другое, гэтыя краявіды, зямля, на якой ты вырас, прытым любы кавалак зямлі, — яны выклікаюць розныя пачуцці. Ёсць, як Колас пісаў, мясціны, дзе і птушка гнязда не ўе і не спявае, — і пісьменнік гэта адчуе. Усё залежыць ад гэтай самай песні зямлі. Я хачу, каб вы зразумелі: для мяне апавяданне — не падзея, не факт, нават не сюжэт (сюжэт знойдзецца). Важна адчуць! Адчуць тую мясціну альбо той пейзаж, які запомніў, палюбіў, а потым ужо навяжацца — ці тое, што было асабіста, ці прыдумаецца нешта. Кажуць, што я біяграфічны пісьменнік. Канешне, біяграфічны. Але колькі ў той біяграфіі выдумкі! Дык вось трэба гэтая мясціна. І тады яна будзе спяваць! Словам, пісьменнік — нейкая апасродкаваная істота. Вось як на мандаліне іграюць медыятарам, дык так і пісьменнік — накшталт гэтакага медыятара, які перадае сум ці радасць зямлі, неба, усёй навакольнай прыроды, ну, і чалавека, безумоўна...

**— Хацелася б даведацца пра аповесць "Замець жаўталісця" — ці біяграфічная яна?**

— Не, яна — выдумка. Выдумка ў тым сэнсе, што я ніколі не выкладаў у Мазырскім педінстытуце, ніякіх лекцый там не чытаў, і такой гераіні не было. Гэта, як піша Багдановіч пра Вераніку, — выдумка маёй галавы. Галавы то галавы, але, як кажуць, "седина в волос, а бес в ребро". Дзесьці гэта ўсё — якраз у маёй унутранай біяграфіі, пра якую я казаў, у той біяграфіі, якая непасрэдна не раскрываецца і не пішацца. Недзе падобны выпадак, калі і не цалкам такі ж самы, то хоць нейкія подступы да яго, пачуцці падобныя — ўсё ж былі... Мележ, калі прачытаў гэтую кніжку пазваніў мне (дарэчы, падоўгу мы любілі гаварыць!) і сказаў: "Ты, відаць, закахаўся..." Ну, я, канешне, сціпла прамаўчаў.

**— Іван Якаўлевіч, вы хораша ўмееце перадаваць пачуцці і эмоцыі сваіх герояў. Незвычайны пачуццёвы шквал — так хацелася б назваць гэтую асаблівасць вашай прозы... Ці не падзеліцеся сакрэтам свайго майстэрства?**

— Як пісаць пачуцці? Іх не трэба выдумваць. Пачуцці пісьменнік піша свае. А пісаць жа няцяжка, калі ты ўвайшоў у характар, адчуў і ведаеш яго. Не знаю, можа, каму ўдаецца пісаць па плану альбо па пэўных схемах, але думаю, што галоўнае для пісьменніцкай работы — інтуіцыя пачуцця. Успомнім таго ж Пушкіна. Ён жа адразу і не ведаў, што Таццяна выйдзе замуж. Гэта ж інтуіцыяй ён дайшоў: у сітуацыі, калі Анегін растаптаў яе пачуцці, яна толькі і магла так зрабіць, іншага выйсця проста не было... Словам, трэба давяраць сваёй інтуіцыі. Але, канешне, як Пушкін пісаў, "алгеброй поверять интуицию" гэтаксама трэба. Разумовы элемент неабходны, бо пачуцці часам могуць такога нарабіць. Вунь Горкаму аднойчы прыслаў адзін аўтар верш, і там было так: "Семён Михайлович Будённый скакал на рыжем кобыле". Дык Горкі пасля пісаў, што "если на эту животину сесть, то неизвестно, куда она занесет..."

**— Ці здараліся за вашу доўгую пісьменніцкую практыку выпадкі непаразумення з рэдактарамі па ідэалагічных прычынах?**

— Я не з самых радыкальных пісьменнікаў. І я не то што баяўся ці, як кажуць, не хацеў на ражон лезці, — проста мая натура такая — памяркоўная... Разумееце, пры любым цары спяваюць птушкі, нараджаюцца прыгожыя дзяўчаты, можа быць каханне, карацей кажучы, народ жыве ва ўсякіх умовах, і трэба жыць. Ёсць у народзе нават выслоўе: жыць як набяжыць... Але і ў мяне таксама здараліся непрыемнасці. Помню здымалі нават з нумара апавяданне — "Пад пошум дубоў" у "Полымі". Тады мне на ўступкі прыйшлося пайсці. Ну, а "Смутак белых начэй" увогуле не прапускалі; Шамякін чытаў-чытаў, усё затрымліваўся на апошніх старонках, але, зрэшты, надрукавалі, хаця я там асабліва нічога і не здымаў. У "Вайне каля Цітавай копанкі" здымалі масу дробязей, якія я так і не аднавіў; з "Сасны пры дарозе" нават некалькі старонак выкінута... Увогуле рэдактура "лазіла".

**— А не даходзіла, што ў Галоўліт выклікалі?**

— З "Дубамі..." ездзіў у Галоўліт.

**— Вы сказалі: жыць як набяжыць... Ці ж выйсце гэта, калі нішчыцца ўсё беларускае, а ва ўладзе стаяць антыбеларускія сілы? Як паводзіць сябе ў такой сітуацыі літаратару? Зусім не зважаць на палітыку?**

— Ну, вы ўжо трошкі завастраеце. Я сказаў, што гэта прымаўка ў народзе такая, і што народ жыве. А за нацыянальную культуру і перш за ўсё за мову нашу, безумоўна, неабходна змагацца. І я лічу, што змагацца трэба легальнымі шляхамі. Трэба, каб закапёршчыкамі была інтэлігенцыя. А колькі ў нас гуманітарнай інтэлігенцыі? Жменька... Зрэшты, раней нас яшчэ менш было. Памятаю, студэнтамі — нас па пальцах можна было пералічыць — але мы па-беларуску гаварылі, ніколі роднай мове не здраджвалі, і вузкай рачулкай цякло гэта наша беларускае. А ўжо нават у школах беларускую літаратуру пачалі па-руску выкладаць. І ўсё ж з таго становішча мы рванулі. Я як цяпер помню, з якой цяжкасцю закон аб мовах прымаўся — я быў старшынёй Вярхоўнага Савета тады. 352 чалавекі! — запісалі гэтую лічбу на табло, і я яе ўжо не мяняў, хоць парушаў нейкія там фармальнасці. А 352 — гэта ўжо большасць ВС... Увогуле ж лічу, што, калі б добра паставіць выкладанне беларускай мовы і літаратуры ў школе, і ў рускай школе ў тым ліку, то тады можна было б і адстояць нацыянальную культуру. А каб яшчэ ўся тэхнічная, прыродазнаўчая інтэлігенцыя павярнулася да беларускай мовы тварам! Але гэта, відаць, доўгі працэс... І гаварыць тут можна было б вельмі доўга.

Наконт літаратуры і палітыкі. Залішняя ідэалагізацыя калісьці ўжо нанесла шкоду літаратуры. А ўспомнім з класікі: Някрасаў стаяў на рэвалюцыйна-дэмакратычных пазіцыях, а Фет пра рэвалюцыйную дэмакратыю і слухаць не хацеў, і, як ехаў міма Маскоўскага універсітэта, дык пляваў у той бок. І тым не менш Някрасаў любіў паэзію Фета... Разумееце, літаратура шырэй ідэалогіі, вышэй палітыкі.

*(Працяг на стар. 12)*

## 30-Е, НОВАЕ...

**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі гадоў дзесяць таму мела справу выключна з далёкімі замежнымі краінамі. За апошні час лік таварыстаў пашырыўся за кошт блізкага замежжа — Літвы, Украіны, Малдовы і іншых, іх стала 29. І вось — папаўненне. На гэты раз па лініі ведамства сп. Ваніцкага замацаваны сяброўскія адносіны са Злучанай Саюзнай Рэспублікай Югаславіяй.**

**Непасрэдным штуршком для стварэння беларуска-югаслаўскага таварыства стаў супольны навуковы сімпозіум у Акадэміі навук Беларусі, куды прыехала шмат знакамітых вучоных-фізікаў. Усе яны на чале з М. Дзімітрыевічам і з ўдзелам часовага паверанага Югаславіі Жэлька Краінавіча прысутнічалі на ўстаноўчым паседжанні на Захарава, 28.**

**Гучалі прачулыя звароты — "Браты і сёстры", а таксама словы пра агульныя гістарычныя карані. Падабенства паміж нашымі краінамі сапраўды ёсць. І іх, і нас па 10 млн, і мы, і яны размешчаны на перакрыжаванні еўрапейскіх шляхоў, абедзве краіны моцна пацярпелі падчас другой сусветнай вайны. Палітыку выступоўцы абыходзілі старанна, як каровін лепех. Госці згадвалі пра няшчасце (усё, што апошнім часам адбывалася на тэрыторыі былой Югаславіі) і несправядлівыя санкцыі супраць сербаў, наш бок — пра цяжкае эканамічнае становішча Беларусі, пра дапамогу дзецям пасля Чарнобыля: 200 нашых дзяцей папраўлялі здароўе ў Бялградзе. Тады-сяды з нашага боку праскоквалі настальгічныя ноткі па былым СССР, светлыя згадкі пра даўнейшае культурна-літаратурнае супрацоўніцтва, гучалі панегірыкі славянскім каштоўнасцям і славянскай цывілізацыі. І. Чарота, ініцыятар камітэта ў падтрымку Сербіі і Чарнагорыі, згадаў імя пісьменніка М. Сібінавіча, чыімі намаганнямі у 1993 г. выдадзена "Анталогія беларускай паэзіі".**

**Пры заканчэнні паседжання падзею назвалі гістарычнай, а намеснік старшыні Н. Іванова зачытала спіс Рады новага таварыства. Асобныя імёны (у прыватнасці, Г. Пашкова) прымушалі задумацца пра непасрэдную блізкасць таго самага лепеха і некаторую тэндэнцыйнасць "аргкамітэта". Зрэшты, сяброўства — рэч святая (як людзей, і так народаў), так што пажадаем беларуска-югаслаўскаму таварыству плённай дзейнасці.**

**НАШ КАР.**

## НАТХНЁНЫЯ КАРАТКЕВІЧАМ І "БЕЛАЙ ДАМАЙ"

**30 чэрвеня ў кутняй вежы былога францысканскага кляштара ў Гальшанах (цяпер гэтая частка будынка належыць філіялу Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь) адбыўся сход заснавальнікаў новай грамадскай арганізацыі. Яна атрымала назву — Фонд "Гальшанскі замак". Быў прыняты статут і вызначаны асноўныя накірункі дзейнасці.**

**Фонд "Гальшанскі замак" з'яўляецца падраздзяленнем грамадскага навукова-аналітычнага Цэнтра "Беларуская перспектыва" і таму сярод яго заснавальнікаў — сустаршыні Цэнтра Валянцін Голубеў і Уладзімір Анцулевіч, члены Савета заснавальнікаў прафесар Анатоль Грыцкевіч, журналіст і мастацтвазнавец Валянцін Трыгубовіч, даследчык беларускай культуры Марыя Міцкевіч... У праўленне наваствoранага Фонду ўвайшлі як мінскія рупліўцы беларускай даўніны, так і мясцовыя — дырэктар Гальшанскай сярэдняй школы і стваральнік цудоўнага краязнаўчага музея Эдуард Корзун і загадчыца філіяла Нацыянальнага мастацкага музея Часлава Акулевіч. Старшынёй Фонду "Гальшанскі замак" абрана Наталля Мяцельская, супрацоўніца Акадэміі навук Беларусі.**

**Сваёй стратэгічнай мэтай Фонд "Гальшанскі замак" мае развіццё і культурны росквіт рэгіёна, у якога багатая гісторыя, дзе часткова зберагліся і могуць стаць аб'ектам турыстычнай цікавасці архітэктурныя помнікі, дзе жывуць традыцыі міжканфесійнага і міжнацыянальнага суладдзя ў штодзённым жыцці, дзе веліч беларускай нацыі мае апірышча не толькі ў пісанай гісторыі, але натуральна жыве таксама ў шматлікіх міфах і паданнях.**

**Фонд "Гальшанскі замак" адкрыты да супрацоўніцтва з дзяржаўнымі і недзяржаўнымі арганізацыямі Беларусі і замежжа. Першае, што прапануюць яго сябры і прыхільнікі: прачытайце (перачытайце) "Чорны замак Альшанскі" незабыўнага Уладзіміра Караткевіча і разам з Наталляй Мяцельскай зрабіце падарожжа па Гальшанах і ваколіцах. Тады працаваць на аднаўленне замка і росквіту Беларусі будзем разам.**

**Прэс-служба Цэнтра "Беларуская перспектыва".**

**Тэл. 226-87-99**

# ФЕНОМЕН ТВОРЧАСЦІ САКРАТА ЯНОВІЧА

ПОСТАЦЬ ГЭТАГА таленавітага літаратара добра вядома і на яго радзіме — у Беласточчыне, і ў Рэспубліцы Беларусь. Сёлета Сакрат Яновіч — гаворка пра яго — адзначае сваё 60-годдзе. За спіною — багаты творчы набытак, шмат кніг, прынятых чытачом, шырокі абсяг грамадскіх клопатаў, ёмісты вопыт пражытага і перажытага.

Нарадзіўся ён у Крынках, у сям'і мясцовага шаўца Канстанціна Яновіча, які меў яшчэ і гаспадарку — кавалак поля ў тры гектары. "Рос я, — успамінае С. Яновіч. — паміж атыкай сінагог, стройнай готыкай і візантыйскім харалам — у сонечнай даліне, Крынках". Думку аб магчымасці і нават натуральнасці суіснавання розных культур увабраў у сябе яшчэ, так сказаць, з дзяцінства. Вершы пачаў пісаць у школе — па-польску і па-руску. "Беларускую мову я, — зноў успамінае ён, — прызнацца, не любіў. Па местачковай традыцыі. Адначасна, я не мог адкінуцца ад яе, "простай", каб не аказацца тым, хто здрадзіў сам сабе! Ні ад каго пазычаная яна, ані крадком сцягнутая. Думаецца мне зараз, што гэтым дакранаюся я да тае Ахілесавае пяты нашай нацыянальнай годнасці, да цэлага комплексу яе пераддаpíслай нявыяўленасці, псіхалагічна-культурнай няспеласці беларускага тыпу асабовасці, схільнага да паклонніцтва перад кімсьці, і ўнутранай патрэбы шукаць дазволенасці дзеля свайго з боку іншых..."

Гэтак ён тлумачыць абставіны свайго вяртання да беларушчыны. І яшчэ: "Слова — гэта галоўны інструмент пісьменніка, — казаў ён у адным з інтэрв'ю. — Слова роднае і слова вывучанае — гэта не адно і тое ж. Слова роднае прыйшло з табою на свет, слова вывучанае — набытае, бы нейкая мэбля. З двух малаткоў, якімі карыстаецца майстар, адзін заўсёды ляжыць яму ў руцэ лепей, чымсьці другі. У мастацкім сэнсе, значна больш можаш дасягнуць, карыстаючыся родным словам..."

Пасля школы скончыў электратэхнікум (1955), а потым аддзяленне беларускай філалогіі Настаўніцкага інстытута (1962) у Беластоку і факультэт польскай філалогіі Варшаўскага універсітэта (1973), працаваў журналістам у "Ніве". З першымі празаічнымі творамі дэбютаваў у сярэдзіне 50-х гадоў, а кнігу — зборнік апавяданняў і мініяцюр "Загоны" выдаў у 1969 г. Зрэшты, вызначыць жанр, ці хаця б тое, паэзія гэта або проза, было не проста. Быццам і проза, але, настоеная на паэтычным водары, не паддавалася пераказу.

Вось замалёўка "Касец":

"Неба распаленае да беласці. Усюды, як вокам кінуць, гоні. Вось і жніво настала!

Удыхаю пах хлеба, не спяшаючы скідаю з плячэй касу і вастру яе. Жаўрук у высі славіць працавітасць маю аж па суседнія вёскі. Першым я выйшаў у поле!

Сівавусыя каласы кланяюцца ў пояс і просяцца:

— Дай пажыць, дай пажыць, дай пажыць...

А мне весела ад іх роспачы".

Аўтар імкнуўся браць жыццё на драматычных разломах, ва ўзаемасувязі яго паэзіі і трагічнай безвыходнасці. Антынамічнасць жыццеўспрымання, унутраная канфліктнасць застаюцца важнейшымі ідэйна-стылявымі рысамі яго творчасці.

У першых навелах назіраем шырокі разліў шчымліва-сентыментальнага лірызму. Вось эцюд "Валошка" (так на Беласточчыне называюць васількі):

"Кропля блакіту ў спелым жытнёвым узмежку. Заглядаюцца зайздросна каласы, натапырыўшы вусы.

Сыплеш смехам, сінявокая, і пошум таемнай надзеі коціцца па гонях. Трывожыць і падае сілу ў спякотным лёсе.

Свет малюткі сівее ў склератычным адранцвенні. Серп смерці пакідае цябе драпежным асеннім вятрам. Збыткуючы, глумяцца над пялёсткамі ўдавінай прыгажосці. Росную свежасць палошчуць сцюдзёныя ліўні. Ад знямогі горбішся ў паірдзеўшай дзярніне.

Ціха паміраеш".

Гэта — тонка адчутая пісьменнікам (паэтам?) падвойнасць зямнога існавання, пастаянная прысутнасць у ім жыцця і ўмірання, чагосьці такога, што не залежыць ад чалавека. У гэтым сэнсе я б назваў маленькімі шэдэўрамі навелы "Нешчаслівы выпадак", "Далейшае жыццё Манькі і яе смерць", "Нянавісць малога нявольніка". Ды і многія іншыя! Пабудаваныя паводле законаў паэзіі, яны не паддаюцца пераказу, таму я адсылаю чытача непасрэдна да арыгіналаў. У іх адлюстроўваўся ўласцівы гэтаму мастаку архетып драматычнага ўспрымання быцця. Яго цікавасць не столькі мысленне чалавека, не столькі свядомасць, колькі першасная стыхія — стыхія падсвядомага, якая і штурхае чалавека на ўчынкі, вызначае лёс. Эстэтычная рэальнасць пісьменніка — рэальнасць таго старажытнага пушчанскага краю, дзе нарадзіўся аўтар. Тут шмат нейкай першабытна-вобмацнай рэчыўнасці, прыродных пахаў і колераў, шмат зыркіх промняў паэзіі ў яе расянай свежасці.

"Я поўны скаргаў на Гісторыю!" — скрушна прызнаецца ён у адным з эсэ, і нам гэтыя скаргі блізкія і зразумелыя. Але ёсць рахункі і з сучаснасцю. У пачатку 70-х гадоў давялося пакінуць "Ніву". "Пратэстуючы супраць бюракратызацыі ўлады, быў вымушаны пайсці на "чорную работу" — рабіў кладаўшчыком, тэхнікам бяспекі працы..."

Пасля "Загонаў" кнігі С. Яновіча выходзілі і ў Беластоку, і ў Варшаве, і ў Лондане, і ў Мінску. У Мінску гэта быў зборнік прозы "Сярэбраны яздок" (1978), у які ўвайшла аднайменная аповесць пра паўстанне 1863 г. на Беларусі (вобраз Кастуся Каліноўскага) і навелы.

Адзін з калег С. Яновіча — М. Шаховіч — зазначыў: "Яго творчасць поўнасцю асаджаная ў Беласточчыне". І, дададзім, гэтага яму ўпаўне дастаткова, каб на мясцовым матэрыяле мадэляваць праблемы агульначалавечай экзістэнцыі. Увагу пісьменніка прыцягвае многае: чалавечая свядомасць, суадносіны мінулага і будучыні, узаемасувязь вёскі і горада, праблема бацькоў і дзяцей, працэсы ўзнікнення адчужанасці паміж чалавекам і светам. Героі С. Яновіча ў значнай частцы людзі-маргіналы, якія ў свой час з вёсак падаліся ў гарады з надзеяй напаткаць чалавечую долю, але, як правіла, іх чакала расчараванне. Ён пераканаўча паказвае, як у свядомасці такіх людзей нараджаюцца пэўныя комплексы, звязаныя найчасцей з іх вясковым паходжаннем. Гэта добра відаць у аповесці "Самасей" (1978), герой якой Андрэй Антошка — тыповы маргінал, што "завіс" паміж горадам і вёскай, мінулым і будучыняй. Не раз ён спрабуе разабрацца ў самім сабе, у сваім лёсе, але гэта яму ніяк не ўдаецца.

Такая ж і Настуся — пані, з аднайменнай навелы:

"Кожную наступную ўладу яна ўспрымала як нецярплівейшы гнеў нябёсаў на народ за грахі. Паны секлі бізунамі; свае заеліся вывалакаць у Сібір адзін аднаго; немец прыбіўся — кулю ў лоб ды ў пясок! Прычакалі й пекла: сусед суседа лупіў, са свету зводзіў брат брата (яе качалі й бралі пад сябе заполянскія кавалеры, што з вінтоўкамі рабавалі хутары).

Усяго зазнала, перацярпела".

Тут цэлая эсхаталогія свету!

Роздум над лёсам Беларусі знайшоў адбітак у кнігах эсэ "Беларусь, Беларусь" (1987) і "Terra incognita": Беларусь" (1993) — абедзве выйшлі па-польску, паколькі адрасаваны перш за ўсё польскаму чытачу.

Пра жанр кнігі "Беларусь, Беларусь" М. Гайдук пісаў: "... сярмяжная старэча-гутарка пад яго пяром закрасавала ўсімі прывабнасцямі сучаснай літаратурнай элеганткі".

С. Яновіч хоча ўступіцца за радзіму:

"Ціха ты, Еўропа! — нацыя мая родная ўжо пры смерці, мову ёй адымае. І не трубі па ратунак, захварэла яна памужыцку невылечна. Няхай спакойна на той свет адыдзе, без пакутаў дарэмных, сябе і іншых не мучачы лішне. Даволі і так пажыла, ледзь з духам нарадзіўшыся, жыццё сваё пракаратаўшы так-сяк, з горам ды з бядою. Як неўдалота вясковы, яна найбольш сама сябе заядала; беднаму ўсё вецер у вочы, а багатаму чорт дзяцей калыша. Нацыя беларуская, ты як бабуленька непатрэбная, калі ўнукаў пагадавала, — дабрынь твая перастала даваць карысць. Задобрай ты была, занадта спагаднай і падатлівай у новы час, у які шануюць таго толькі, каго баяцца. Божамаці народаў ты, Беларусь, без права на быт рэальны, а ўсяго на легенду паклонную. Ікона не дае хлеба, таму не ўсе да яе моляцца".

І ён не таму неадступны ў сваёй беларускасці, што мае моцны характар, а хутчэй таму, што чулы па натуры, душэўны...

Дык хто ён — Сакрат Яновіч? У чым яго феномен? Чым глыбей яго ведаеш, тым больш ён здзіўляе маштабамі і незвычайнасцю сваёй індывідуальнасці: паэт, празаік, эсэіст, публіцыст, аналітык, гісторык, культуролаг, сацыёлаг, псіхолаг, філосаф, мараліст і яшчэ, і яшчэ. Пры ўсім пры тым гэта чалавек з вельмі нізкім болевым парогам — мяккі і пяшчотны, тэмпераментны і ваяўнічы адначасова. Такім яго нарадзіла Беларусь XX стагоддзя, шматпакутная Беласточчына, якая з'яўляецца яго малой радзімай. Калі б ён жыў, умоўна кажучы, у Маскве, то гэта быў бы, можа, Салжаніцын, у Кіеве, скажам, Алесь Ганчар, у Мінску — другі В. Быкаў, у Варшаве — не ведаю хто (слаба знаёмы з пісьменніцкім асяроддзем). На Беласточчыне ён — Сакрат Яновіч, і гэтым многае сказана. Яго заўсёды гнеўна непакоіла няразвітасць нацыянальнай свядомасці беларусаў, іх неабуджанасць, прымітыўны стан пачуцця асобы. Тэмперамент мастака заўсёды відаць, калі ён звяртаецца да гэтых тэм.

Усе мы хварэем на комплекс нацыянальнай непаўнаты, непаўнацэннасці. Усе — за выключэннем нямногіх. Сярод гэтых нямногіх — Сакрат Яновіч.

"Заядала і заядае нас, — на яго думку, — правінцыяльнасць, лёкайская спадчына паншчыны. Каланіяльная псіхалогія, якой куды цяжэй пазбыцца, чымсьці самога каланіялізму".

Адзін з яго самаіранічных псеўданімаў "Колька Сплюх" таксама ўсёй вастрынёй свайго зместу скіраваны супроць гэтай "каланіяльнай псіхалогіі".

Але нацыянальная праблематыка — гэта яшчэ не ўвесь Яновіч. Яго герой — гэта не толькі беластоцкі беларус, а чалавек наогул, у сваёй родавай сутнасці. Такім ён прадстае ў аповесці "Сцяна" (скончана ў 1993 г.), якая нагадвае некаторыя рэчы Ф. Кафкі (раманы "Амерыка", "Замак" і інш.). Дзеля чаго існуе чалавек ці яго жыццё бессэнсоўнае? — вось адно з тых пытанняў, якія ставяцца ў "Сцяне". Аўтар, а разам з ім і мы працяглы час былі сведкамі таго, як сэнс жыцця і носьбіт гэтага сэнсу — чалавек існавалі паасобку, ва ўмовах недаверу і варожасці. Такі — Сцяпан Сумленевіч, які вядзе бяссільнае змаганне са "сцяной" — магутным дзяржаўна-бюракратычным апаратам. Экзістэнцыялізм С. Яновіча ў гэтай аповесці заключаецца не проста ў тым, што ён адлюстроўвае жыццё, а ў тым, што малюе яго такім, якім яно дадзена ў чалавечай свядомасці.

Пісьменнік бачыць, што ў кожным жыве інстынкт эгаіста, які капіўся стагоддзямі. У гэтым і заключаецца, паводле С. Яновіча, наша экзістэнцыя. Інертнасць чалавечай прыроды — асноўны аб'ект мастацкага пазнання. "Адкуль бярэцца дурнота?" — гэткім пытаннем ён задаўся яшчэ ў пачатку 60-х, ля вытокаў сваёй пісьменніцкай кар'еры, авалодваючы ўменнем пранікнення ў сутнасць з'яў. Бездухоўны чалавек прадстае ў яго творах "ва ўсім сораме

галасці" (выраз самога С. Яновіча). Ці не пра такіх "голых" ён пісаў яшчэ ў 1969 годзе: "Ідуць тыя, янычары імперыі АБЫЖЫЦЬ, з шаблямі крывымі, як сумленне, з мушкетамі, набітымі кулямі бяздумнасці. Ім усё роўна, чыю зямлю топчуць; ідуць: левай, левай, левай!.."

Ужо тады было ў яго ўсведамленне дысгармоніі фізічна здаровага, але тупога, нячулага варварства і сарамяжлівай, рэфлектуючай маральнасці.

Ён паслядоўна выступае супраць чалавечага адчужэння і ўсемагутнай энтрапіі:

"Куды прападае людская праца? — палі зарастаюць хмызам, украпівелыя сядзібы нагадваюць сабою колішнія могілкі з руінаю капліцы, а ўнукам нашым манерным і не ў здагад нават тое, што ёсць жа ў іх дзяды ды прадзеды... Народ мой хворы беспамяццю..." ("Рэмінісцэнцыі").

Але ён разам з тым разумее, што адчужэнне і, шырэй, энтрапія — працэсы аб'ектыўныя, у чымсьці непазбежныя, з якімі, аднак, трэба змагацца! І ён змагаецца. Экзістэнцыяльнасць яго творчасці — у яскравай індывідуальнасці аўтара, у драматызме яго светаадчування, ва ўсведамленні адказнасці за тое, што адбываецца ў свеце. Індывідуальны стыль даваўся і даецца яму нялёгка, таму што стыль і мова мастака — гэта адпаведнікі яго светапогляду і светаўспрымання. Стыль С. Яновіча — гэта ўслаўленне і барацьба, услаўленне паэзіі жыцця і барацьба з працэсамі забыцця. У яго творах знаходзім дакладнасць перажываемага аўтарам стану і дакладнасць апісваемай падзеі адначасова. У цэлым гэта стыль "цяжкога року" (даруйце за выкарыстанне музычнага тэрміна), які дае мастаку прастору для разгарнення яго эстэтычнай і маральнаэтычнай праграмы, для стварэння свайго альтэрнатыўнага свету — разнастайнага каталога лагічных і абсурдных структур з гісторыі і паўсядзённасці.

Творчасць С. Яновіча, на маю думку, звязана з барочным мастацтвам, з тымі нацыянальнымі экзістэнцыяламі, якія выразна адбіліся ў беларускай літаратуры папярэдніх, больш старажытных эпох ("Баркалабаўскі летапіс", "Прамова Мялешкі", "Ліст да Абуховіча " і інш.).

Працуе С. Яновіч апантана, з нейкім нават душэўным надрывам, апошнім часам яго проза страсае з сябе лішнюю паэтычнасць, становячыся больш і больш аналітычнай: кнігі "Доўгая смерць Крынак", 1993; "Даліна, напоўненая лёсам", 1993 (на польскай мове).

С. Яновіч лічыць: "Ніхто не піша дзеля самога сябе. Пісьменнік — гэта непапраўны эстэт душы, мараліст, даследнік і рэфарматар чалавека ўрэшце".

У гэтым сутнасць творчых намаганняў і самога С. Яновіча. Сёння ён з поспехам перакладае Казімежа Браканецкага. Гэта, думаецца, шлюб па каханні. Перакладчыку блізкі і пафас і канцэпцыя творчасці гэтага сучаснага польскага пісьменніка, пра што сведчыць хаця б такі ўрывак з "Сшыткаў адзінага" (твор К. Браканецкага):

"Пішу вершы, бо ненавіджу, бо хачу ненавідзець, бо хачу нешта выратаваць, дабіцца адкуплення, бо бачу адходы жыцця, фрагменты велічы, кавалкі мяса, якое роспачна кліча да сябе тую гістарычную і тую экзістэнцыяльную ўпэўненасць, бо хачу схапіцца са светам цэлым, бяссэнсавай, містыфікаванай гісторыяй, злачынствамі разбойнымі, махлярствамі, войнамі. Пішу, бо не ведаю, бо хачу ведаць, бо баюся ўласнага зла, яго актыўнага ўяўлення, бо наванітна абрыдлі мне сервілізм, прапаганда, чэрнь тратуарная, бо няўпэўнены я ў Богу, у рацыі, у дзяржаве, бо ўпэўнены я ў болю, у зняверанасці, у крыку, бо хачу ўпэўніцца ў самавызначальнасці дабра і свабоды".

С. Яновіч таксама за тое, каб дамагчыся ў сваіх творах бязлітаснай праўдзівасці.

С. Яновіч належыць да тых пісьменнікаў, хто сваёй творчасцю ў многім памяняў ідэйна-філасофскі і эстэтычны статус беларускай літаратуры на Беласточчыне, прымусіў лічыцца з гэтай з'явай нацыянальнай культуры. Сучаснасць мае пільную патрэбу ў феномене С. Яновіча — у гэтым нястомным беларускім Сізіфе, які, нягледзячы ні на што, коціць свой каменьвалун на самую вяршыню жыцця, прагнучы духоўнага і маральнага абнаўлення свету.

Сёння можна з упэўненасцю канстатаваць, што творчасць знакамітага "белавежца" перасягнула межы рэгіянальнай вядомасці і становіцца дасягненнем еўрапейскага кшталту.

**Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ**

Анкета "ЛіМа"

***Працягваем друкаваць матэрыялы лімаўскай анкеты.***

***Рэдакцыя прасіла адказаць на наступныя пытанні:***

***1. Што такое "паэзія чыстае красы" ў кантэксце сучаснай беларускай літаратуры — васілёк, які прыўкрашае ніву, званіца, якая ўзвышаецца над мітуснёй быцця, ці нешта іншае?***

***2. Ці варта сёння творцу думаць пра сваю папулярнасць, і як у цяперашніх варунках дамагчыся папулярнасці беларускамоўнага твора?***

***3. Што такое змена пісьменніцкіх пакаленняў? У вас ёсць папярэднікі і наступнікі ў літаратуры?***

# КРАСА І СМУТАК

1. Васілёк з часоў Багдановіча стаў сімвалам "паэзіі чыстай красы". Яе, аднак, можна атаясамліваць і з іншымі дзівоснымі кветкамі, напрыклад, ружай ці белай ліліяй. Прыгожае ў паэзіі — эстэтычная першааснова, высокі ідэал, храм святла і духоўнасці. Тым не менш беларуская паэзія доўгія гады выракалася сваёй існай прыроды, ідэалогія перашкаджала ёй быць "мастацтвам высокай красы". Лірызацыі, радасці вечных пачуццяў, элегантнасці радка процістаўлялася як адзнака вышэйшасці ідэйна-палітычная змястоўнасць. У другой палове 80-ых паэзія разняволілася і выйшла на шлях эстэтызацыі. Некаторыя творцы, перадусім Л. Дранько-Майсюк, убачылі гэты шлях магістральным, адзінаправільным. Над прозай, мітуснёй быцця паэзія стала ратавацца Грэцыяй і Парыжам, духоўным узвышэннем, стварэннем тонкіх узораў паэтычнага жывапісу. І гэта выдатна. Бо эстэтычная прырода паэзіі — падкрэслім яшчэ раз — у выяўленчай прыгажосці слова, вытанчанасці пачуццяў, пластыцы, гарманічнай закончанасці формы верша. Права паэта быць эстэтам, песняром красы — права, можна сказаць, адвечнае, наканаванае Богам. І ніхто не павінен навязваць творцу нейкі іншы шлях.

Аднак не трэба забываць, што чалавек, акрамя ўсяго, істота грамадская, сацыяльная. І тое, што некаму падасца "мітуснёй быцця", у іншага спараджае боль ці гнеў душы, успрымаецца ім як агульназначная трывога і адказнасць за свет, у якім валадарыць зло і чорныя сілы. Паэту гэткага кшталту цяжка сплесці прыгожы кокан і адгарадзіцца ад людскога гора і бяды. Нават такому паэтуэстэту, як М. Багдановіч, не давала спакою "грамадскае гора". Сёння ж творца, як бы мы ні спрачаліся, "гражданином быть обязан" (М. Някрасаў), бо нельга не рэагаваць на трагедыю народа, на гвалт, разбурэнне праўды, чалавечыя крыўды. Так, краса і палітыка — два полюсы свету. Але палітызацыя, грамадзянскасць — запатрабаванне часу, і, хочацца думаць, гэта не выяўленне слабасці паэзіі, а неспакой, змаганне яе духу за эстэтычную самакаштоўнасць і незалежнасць, за права на красу, свабоду і светласць існавання. Паэт павінен імкнуцца быць чыста эстэцкай, нават эгаістычнай натурай, але ці спрыяюць гэтаму час і палітыка? І ці дазволяць яны калінебудзь увогуле стаць паэзіі выключна чыстай і незалежнай? Таму мне імпануе, калі свет сучаснага творцы гарманічна зладжаны, калі там ёсць краса і боль, лірычны пейзаж і грамадзянская элегія, філіграннасць радка і выбух эмоцыі. Аднак я перакананы, што паэзія не павінна быць суцэльна палітызаванай, нейкай прамалінейнай, бо ад гэтага звузяцца яе эстэтычныя далягляды. Хай паэт, акрамя ўсяго, узіраецца ў вечнае жыццё прыроды, абагаўляе жанчыну, яе хараство, рвецца душой "к зорам агністым, к прыволлю нябеснаму... з ціны жыццёвай" (Я. Купала).

2. Папулярнасць для творцы, як думаецца, рэч важная і неабходная. Але яна, папулярнасць, рознага роду і дасягаецца неаднолькава. З'ява гэтая бывае пераходнай, не заўсёды залежыць выключна ад суб'ектыўнамастацкага фактару. Згадайма тое, наколькі шырока чытаемы быў Іван Шамякін, творы якога выдаваліся шматтысячнымі накладамі. Сёння нават гэты пісьменнік, які намнога дадаў папулярнасці і аўтарытэту беларускаму мастацкаму слову на радзіме і ў свеце, змушаны скардзіцца на свой лёс: наклады невялікія, а значыць звужаецца і сфера кантактаў з чытачом. А што тады казаць пра сённяшніх маладых паэтаў і празаікаў, пра рост да іх творчасці чытацкіх сімпатый? Першыя кніжкі ў "Бібліятэцы "Маладосці" выходзяць мізэрнымі накладамі да 500 асобнікаў, у "Мастацкай літаратуры" сягаюць ледзь за 1000 асобнікаў. Катастрафічна ўпалі наклады беларускіх часопісаў, сёння яны ідуць у лічаныя школьныя бібліятэкі. Толькі раўнадушны чалавек можа не бачыць, як эканамічны крызіс выштурхнуў культуру і мастацтва на задворкі жыцця, як набірае разгон вакханалія бездухоўнасці, маскультуры, а наступ дэнацыяналізацыі наогул ставіць пад пагрозу існаванне беларускага пісьмовага слова. Калі так справа пойдзе і далей, то баюся, што да нацыянальнай творчай інтэлігенцыі вернецца сумнае і абражальнае стаўленне, добра вядомае па гадах "развітога сацыялізму", палітыцы "зліцця нацый і моў". Крый Божа, зноў стацца "белымі варонамі" на сваёй зямлі, ведаць, што створанае табой будзе не запатрабавана. Бо духоўнае біяполе нацыі — зарука жыцця літаратуры. Літаратура і так амаль цэлае стагоддзе ішла праз церні, на яе расколатым падмурку трымаліся патрыятычны дух, нацыянальнае светаадчуванне. Скоціцца грамадства да нацыянальнага выраджэння — закрыцця беларускіх класаў і школ, згортвання беларускага друку, нацыянальнай тэатральнай творчасці і да т. п. — то доля ўсіх чакае адна: манкурцтва нашчадкаў, духоўнае забыццё. Няўжо беларусам прыйдзецца з болем глядзець у вочы дзяцей, зноў пакутліва цяжка паміраць? Няхай не цешаць сябе высокімі пасадамі, прэміямі і званнямі (хто дачакаўся ці спадзяецца яшчэ дачакацца), што ім суджана неўміручасць. Вядома, тут я кажу не пра ўсіх, не хацеў бы абагульняць. Пахаваем Беларусь, мову — выраем яму і для літаратуры. "Памінаць бо толькі будзем родную старонку", — трагедыйна-завострана казаў Купала ў вершы "Гэй, капайце, далакопы..." Здаецца, у бліжэйшы час нічога добрага чакаць не прыходзіцца. Некалі яшчэ ў ваенныя гады Кузьма Чорны, даведзены тагачаснай сістэмай да адчаю, з болем пісаў: "Я жыву як апошняе пакідзішча. І не таму, што мне хто зла хоча, а таму, што ў нас не еўрапейская дзяржава, дзе інтэлектуальныя асаблівасці чалавека робяць яго жыццё арганізаваным. А ў нас азіятчына". Дазволю запытацца: што, уласна кажучы, змянілася з той пары? Хіба пісьменнік, літаратура і мастацтва могуць нармальна, паўнацэнна існаваць, калі правіць баль "азіятчына"?

Аднак нават у такіх драматычных варунках не хацелася б апускаць рукі. Інтэлігент-насць, ды і літаратурная творчасць, як падаецца, пачынаецца з самаахвярнасці. І не толькі ў нашай постсавецкай рэчаіснасці, але і ва ўмовах прагматызму капіталістычнага грамадства. Таму трэба імкнуцца ўзвысіцца над брудам, выжыць наперакор гвалту, толькі не любой цаной. Гэта цяжка, неймаверна цяжка. Але ці можна інакш?

Пра сваю літаратурную папулярнасць, вядома, нельга не думаць і не дбаць. Але не спадзявацца пры гэтым на поспех на дзень ці два. Так далёка не заедзеш. Праўда, некаторыя жанры больш спрыяльныя для росту папулярнасці. Скажам, эстрадная песня. Даволі вядомымі ў апошнія гады сталі імёны У. Някляева, Л. Дранько-Майсюка, А. Бадака, Л. Пранчака, У. Мазго, В. Шніпа. Але міжволі зноў жа ўзнікае пытанне: наколькі для гэтых паэтаў тэле- і радыёэфір будзе па-ранейшаму спрыяльнай сферай самавыяўлення? Хтосьці сёння спадзяецца, што прэстыж сучаснай літаратуры ўзвысіць парнаграфія на беларускай мове. Іншыя звязваюць павышэнне цікавасці да асобаснага выяўлення з арыентацыяй на постмадэрнізм. Што ж, хай сабе, у кожнага свой шлях да папулярнасці. Мне асабіста думаецца, што беларускаму літаратару папулярнасці зараз можна дасягнуць у асяроддзі патрыятычна настроенай моладзі, свядомага настаўніцтва, творчай і навуковай інтэлігенцыі, элітарнай часткі грамадства. Яшчэ пакуль можна... Як на мой погляд, праз высокую духоўнасць, інтэлектуальнасць, арыгінальнасць самавыяўлення. Аднак — і ў гэтым маё глыбокае перакананне — без агульнасацыяльнага, агульнакультурнага зруху жыццё літаратуры асуджана на далейшую ізаляцыю, абяскроўліванне.

Папулярнасць як знак вядомасці, зорнай славы нацыянальнага мастацтва слова будзе актуальная заўсёды. І тут высокая эстэтычная годнасць, папулярнасць творчасці нашых выдатных майстроў таму сведчанне. У высокамастацкіх творах — наша духоўная веліч, гістарычнае апраўданне, кволая, але ўсё ж надзея на выратаванне праўды, нацыянальнага духу, сумлення і чалавечнасці.

3. Змену пакаленняў у літаратуры дыктуе яго вялікасць час. Але не толькі пэўнае дзесяцігоддзе вызначае ўзрост пісьменніцкага пакалення. Напрыклад, тыя, хто ішоў у літаратуру ў другой палове 80-х гг., сталі дзецьмі дэмакратызацыі жыцця, нацыянальнага адраджэння. Яны, як калісьці "шасцідзесятнікі", напоўніцу ўдыхнулі творчай волі, адмовіліся ад догмаў і стэрэатыпаў сацрэалізму, крытычна зірнулі на жыццё і рэчаіснасць, надалі літаратурнаму працэсу шматмернасць. Новую пісьменніцкую генерацыю 80-х часам называюць пакаленнем "Тутэйшых". Мне здаецца, азначэнне гэтае ўмоўнае. Маладыя ў "Тутэйшых" больш дэкларавалі, не сталі адзінай эстэтычнай супольнасцю, як у свой час "Маладняк" ці "Узвышша". Бо куды ж тады аднесці тых, хто не дэклараваў пра "новую" літаратуру, працаваў адасоблена, арыентуючыся перадусім, як некалі "ўзвышаўцы", на сваю беларускую традыцыю? Тварэнне літаратуры для моладзі другой паловы 80-х стала справай падкрэслена індывідуальнай, аўтаномнай. Але феномен "Тутэйшых" у тым, што яны здолелі пазначыць агульны літаратурны фон — адраджэнскапатрыятычны і культурна-эстэтычны па сваёй сутнасці. Літаратура зведала свабодны поступ, яна набыла шматвектарнасць развіцця. Хоць, безумоўна, пэўныя негатыўныя выдаткі засталіся.

90-я асабіста ў мяне перадусім асацыіруюцца з "Першацветам", яго шматгалосасцю, шматплыннасцю. Хаця нехта вылучыць як асобнае пакаленне "вольналітаратарцаў" ці нават "бум-бат-літаўцаў". Зрэшты, "Таварыства свабодных літаратараў" абвясціла пра сваю пераемнасць з "Тутэйшымі". Значыць, можна спадзявацца ў хуткім часе на шэдэўры ў беларускай літаратуры. Няхай ствараецца экзатычнае, штосьці ўражальнае, не было б толькі ваяўнічай канфрантацыі. А, урэшце, каму з маладых не хацелася сябе паказаць ды свет здзівіць?

**Алесь БЕЛЬСКІ**

# БУДЗЕМ РАЗАМ З "БМ"

У трэцім нумары гэтага гісторыка-публіцыстычнага ілюстраванага часопіса — шэраг значных і цікавых матэрыялаў пра розныя моманты нацыянальнай гісторыі. У іх — і асэнсаванне дня сённяшняга ў спалучэнні з даўнімі падзеямі. В. Чаропка ("Трэцяе безгаспадарства") вяртае ў тыя часіны, калі 12 снежня 1586 года нечакана памёр у Гародні кароль польскі і вялікі князь літоўскі С. Баторый, а Р. Мікніс ("Літва і Беларусь: супольная аўтаномія") закранае падзеі больш блізкія да нас, вяртае да варункаў, што мелі месца праз колькі гадоў пасля Кастрычніка. Пра масонаў на тэрыторыі Беларусі артыкул Я. Анішчанкі "Вольныя муляры".

Не пакінуць чытача абыякавымі і такія матэрыялы, як "Бунд" Э. Ліпецкага, "Свет і Беларусь: параўнальная храналогія" Л. Лойкі, "Бітва каля Палонкі" В. Літвіна, "Беларускую гісторыю можна вывучаць і ў Францыі" І. Лялькова, "Беларускія сінагогі" А. Трусава, "Карчма ў Гарадзішчы" С. Сергачова, "Чачоты гербу Астоя" З. Яцкевіча...

Апошнім часам звярнуў на сябе ўвагу гістарычнымі артыкуламі і краязнаўчымі нарысамі С. Асіноўскі. Піша ён на тэмы, якія пакуль у поле зроку даследчыкаў трапляюць не часта. Не выключэнне — і ягоны артыкул "Ехаў дзедка на кірмаш..." (пра кірмашы на нашай зямлі).

Змешчаны працяг "Гісторыі Беларусі: год за годам" У. Арлова і Г. Сагановіча. Прадстаўлены наступныя даты: "1861. Скасавана прыгоннае права", "Чэрвень 1862. Выйшаў першы нумар нелегальнай беларускай газеты "Мужыцкая праўда", "1863. Паўстанне на чале з Кастусём Каліноўскім", "1881. 28 траўня (9 чэрвеня). Нарадзіўся Іван Луцкевіч". Дарэчы, аднаго з гэтых аўтараў — У. Арлова — "БМ" прадстаўляе і ў рубрыцы "Галерэя". Прытым арыгінальна: змешчана свайго роду інтэрв'ю з ім "Сціплы полацкі архіварыус", дзе ў якасці адказаў на пытанні выкарыстаны вытрымкі з кніг самога У. Арлова. Друкуецца таксама нарыс "Alma mater Polocensis" з другога выдання яго кнігі "Старонкі полацкай гісторыі", што падрыхтавана да друку. Гаворка ідзе пра Полацкую акадэмію. У "Галерэі" можна пазнаёміцца і з заснавальнікам нумізматыкі на Беларусі В. Рабцэвічам — "Захавальнік скарбаў". Прапануецца ўрывак з яго кнігі "Нумізматыка Беларусі".

М. Раўнапольскі знаёміць з кнігамі гісторыка-краязнаўчай тэматыкі, што пабачылі свет апошнім часам — "Пакуль яны яшчэ выходзяць...". Л. Дзямешка ("Такие книги должны содержаться в особо запертых шкафах") прыадкрывае таямніцы так званых "спецхранаў".

Гэты нумар "БМ", як і папярэднія, ілюстраваны, у ім не адзін дзесятак здымкаў, а на развароце яны нават каляровая:

Дарэчы, на "БМ" можна ў любы час падпісацца: да 10 жніўня — на 5 і 6 нумары, да 10 кастрычніка — на 6-ы (часопіс, як чытач памятае, выходзіць раз у два месяцы).

Будзем разам з "Беларускай мінуўшчынай"!

Лідзія АРАБЕЙ

# КАЛЕЙДАСКОП

НАВЕЛЫ-КАРАЦЕЛЬКІ



## НОГІ

Кабета прыйшла ў цырульню, села ў пачакальні, раскірэчылася. Майстрыца, маладая мілавідная жанчына з хворымі нагамі — носіць артапедычныя чаравікі, — глянула на раскірэчаную і сказала:

— Каб у мяне былі здаровыя ногі, як бы я прыгожа іх ставіла, як бы хораша імі хадзіла...

## У ТРУНЕ

Ён піў па-чорнаму, вечна хадзіў няголены, брудны, у падранай адзежы. І памёр не па-людску, яшчэ малады — марознаю ноччу зваліўся п'яны ў снег і акалеў.

Сваякі склаліся, купілі яму касцюм, чаравікі, абмылі.

Ніколі ў жыцці ён не быў такі чысты і прыгожы, як у труне...

## СТРАХ

Ён вельмі моцна ганіў кабету, даваў ёй самыя жорсткія характарыстыкі. А потым я ўбачыла, як далікатна і паважліва ён з ёю размаўляе, цалуе ручкі.

І мне зрабілася страшна. Бажа мой, — падумала я. — Можа, тыя, што і са мною такія далікатныя, цалуюць ручкі, недзе за спіною і пра мяне гавораць брыдкае...

## ЖЫВАЯ

Жанчына прыехала ў госці да далёкіх родзічаў, якіх шмат гадоў не адведвала. Там ужо выраслі ўнукі. Бабка, знаёмячы ўнука з госцяю, сказала:

— А гэта цёця, між іншым, піша кнігі. І для дзяцей таксама.

— І яна жывая? — здзівіўся ўнук.

## БУКЕТ

Першага верасня ўсе дзеці прыйшлі ў класы з букетамі кветак. А Ваня, сын дырэктаркі школы, аказаўся без букета, маці, за вялікімі клопатамі, забылася надзяліць тымі кветкамі свайго сына. Расхваляваны, хлопчык забег да мацеры ў кабінет.

— Мама! — у адчаі загаварыў ён. — У мяне няма букета!

— Па-першае, — сказала мама, — не ўрывайся ў мой кабінет без стуку. А па-другое, у школе я табе не мама, а Надзея Іванаўна.

Хлопчык паслухмяна выйшаў з кабінета. Праз хвіліну да дырэктаркі пастукалі.

— Уваходзьце, — сказала тая.

Увайшоў Ваня.

— Надзея Іванаўна, — сказаў ён са слязьмі на вачах. — У мяне няма букета...

## ДЗЯДЗЬКА І ПЛЯМЕННІК

Маці, паміраючы, пакінула сыну кватэру з усім дабром, з халадзільнікам ды тэлевізарам. Ён прапіў усё, засталіся голыя сцены. Няма за што болей піць, няма за што есці.

Пляменнік параіў:

— Прадай, дзядзька, гарадскую кватэру, купі дом у вёсцы, рэштку грошай аддай мне, я заваду бізнес і буду плаціць табе працэнты. На ўсё жыццё табе хопіць.

Паслухаўся пляменніка, прадаў кватэру, купіў дом у вёсцы, рэштку грошай аддаў хлопцу.

Той раз выдаў працэнты, другі раз, за трэцім разам сказаў:

— Годзе.

Зноў не было за што дзядзьку піць, за што есці. Прадаў дом у вёсцы. Але і тыя грошы скора сплылі.

Цяпер сядзіць у пераходзе, жабруе, начуе па чужых пад'ездах, скляпеннях. А пляменнік тым часам канчае будаваць катэдж.

## ПЕКЛА ЦІ РАЙ?

Пры савецкай уладзе была актыўная камуністка, на кожным партыйным сходзе заклікала служыць партыі, змагацца з рэлігіяй, гэтым опіумам для народа.

Цяпер узначальвае рух у абарону праваслаўя, заклікае ўсіх служыць Богу.

Што ж ёй угатавана на тым свеце? Рай ці пекла?

## ВЕРА

Я б паверыла ў Бога, каб ён не быў такі жорсткі. Чаму ён загадаў Аўрааму прынесці ў ахвяру яму свайго сына?

Чаму адабраў у Ісава зямлю, вярблюдаў, дзяцей толькі для таго, каб праверыць — ці пакрыўдзіцца Ісаў за гэта на яго?

Чаму дапускае столькі гора, калецтва, крыві на зямлі?

Чаму прымушае маліцца сабе і славіць, славіць?

Не, я хачу справядлівага Бога.

## БАЦЬКА

— Мне сорамна мець такога бацьку, я адракаюся ад цябе, ты п'яніца, ты кожны дзень прыходзіш дадому п'яны, ты крыўдзіш маму, я больш не лічу цябе бацькам, не лічу, не хачу! — Так крычала пятнаццігадовая Валя чалавеку, якога лічыла сваім бацькам. Але ён не быў яе бацька, ён быў айчым. Роднага бацьку Валя і ў вочы не бачыла, ён пакінуў яе маму, васемнаццігадовую дзяўчыну, калі даведаўся, што тая зацяжарыла.

Назаўтра, калі муж праспаўся, падняўся — пакамечаны, няголены, ускудлачаны, жонка спытала ў яго:

— Чаго ж ты Валі ўчора не сказаў, калі яна так на цябе крычала, што ты не ейны бацька, што ёй няма чаго ад цябе адракацца?

Той памаўчаў, потым адказаў хрыплым голасам:

— Няхай ужо гэта будзе мая таямніца...

## КАШУЛЯ

Тысяча дзевяцьсот трыццаць сёмы год. Гогі Гардэладзэ ведаў, што днямі яго расстраляюць. Ён сказаў суседу па камеры:

— Можа, ты неяк адсюль выберашся... Тады вазьмі тое, што ў мяне пад сеннікам... Знайдзі маіх жонку і сына і перадай тое, што ў мяне пад сеннікам, майму сыну...

І яго расстралялі.

Сусед па камеры такі неяк выбраўся. І перад тым, як пакінуць камеру, узяў тое, што ляжала ў суседа пад сеннікам. Гэта была скрываўленая кашуля, на ёй не было чыстага месца, уся ў засохлай крыві.

Ён перадаў гэтую кашулю сыну свайго сябра па няшчасці.

## РАСЧАРАВАННЕ

Пажылая пісьменніца па-мацярынску захаплялася маладым паэтам — які ён таленавіты і які прыгожы, як годна сябе трымае і які ён сучасны!

Потым даведалася, што гэты малады паэт зрабіў ёй паскудства. І захапленне як карова языком злізала. Ён больш не здаваўся ёй ні таленавітым, ні прыгожым.

## КОСМАС

Я адчуваю сваю сувязь з космасам, калі гляджу на зорнае неба. Я адчуваю нешта падобнае на бессмяроцце, калі гляджу на старадаўнія будынкі, касцёлы і цэрквы, на рэшткі Грэчаскіх, Рымскіх, Егіпецкіх збудаванняў. І ўяўляю ўжо, як век за векам мы, усё зямное чалавецтва, ляцім у вечнасць, у бясконцую прастору. А хіба не так? Мы паміраем, нас закопваюць у зямлю, мы павольна трухлеем, змешваемся з зямлёю, ператвараемся ў касмічны пыл і носімся разам з зямною куляю па космасе.

## КОЦІК

Дама ў доўгім футры падышла да прылаўка, загаварыла, як заспявала:

— Філе хе-ека! Бяз костача-ак! Вазьму паўкіло, мой коцік гэту рыбку надта любіць.

А за дамаю ў доўгім футры стаяла пажылая кабета з кавенькаю і гаварыла сваёй сяброўцы, такой самай пенсіянерцы:

— Філе хека.. Дарагое, каб яно згарэла, сорак тры тысячы... Дзеду добра было б, мякенькае, без костачак... Але да пенсіі далёка, купіш таго філе — на хлеб не хопіць.

Шчаслівы недзе той коцік.

## САМАГУБСТВА

Дзяўчына пры немцах працавала настаўніцаю ў вясковай школе. Пасля вайны скончыла інстытут, паступіла ў аспірантуру. Прыехаў хлопец, за якога яна не хацела выходзіць замуж, прыпёр да сценкі.

— Начорта табе тая аспірантура, мала ў інстытуце мазгі пасушыла? Вяртайся дахаты, выходзь за мяне замуж, а не выйдзеш — далажу тваіму начальству, што пры немцах у школе рабіла. Будзе табе аспірантура.

Дзяўчына ўзяла вяроўку, палезла на гарышча і павесілася.

У гэты час ішло пасяджэнне вучонага савета. У пакой ускочыла збялелая сакратарка:

— Кавалеўская павесілася!

Усе ахнулі, пачалі падымацца з месцаў. Спыніў голас дырэктара інстытута:

— Усім заставацца на месцы! Пасяджэнне вучонага савета працягваецца!

## ДЗВЕ ПАМЫЛКІ

Тысяча дзевяцьсот трыццаць дзевяты год. З турмы выпусцілі чалавека. Ён сказаў свайму знаёмаму:

— Дзяржава зрабіла памылку, калі мяне арыштавала. Цяпер зрабіла памылку, што мяне выпусціла. Я ўбачыў такое... І буду пра гэта расказваць.

## РАДЗІМА

У тысяча дзевяцьсот сорак пятым годзе будучага грузінскага пісьменніка Чабуа Аміраджыбі накіравалі ў Беларусь будаваць лесакамбінат. Ён пабудаваў, яго ўсе вельмі паважалі, а потым арыштавалі. Ён уцёк і здолеў уладзіцца дырэктарам завода. Яго і тут усе вельмі паважалі, а потым зноў арыштавалі, далі дваццаць пяць гадоў.

Ён зноў уцёк, купіў фальшывы пашпарт, дакументы, зноў працаваў на высокай пасадзе і зноў яго ўсе моцна паважалі. Ды так моцна паважалі, што запрасілі працаваць у КДБ. Ён працаваў у КДБ, шмат разоў выязджаў за мяжу і вяртаўся ў Грузію. Але яго зноў выкрылі. На судзе спыталі:

— Вы шмат разоў выязджалі за мяжу і вярталіся. Чаму вы не засталіся там?

— Вы не зразумееце мяне, — адказаў Чабуа Аміраджыбі, — таму што ў вас няма радзімы.

Ён быў высокі, стройны, худашчавы і ў пяцьдзесят восем гадоў выглядаў на семдзесят.

## АДЗІНОТА

Ён быў такі адзінокі, што не меў нават магілы блізкага чалавека, куды мог бы прыйсці са сваім горам...

## ПОСПЕХ

Ён усё жыццё праслаўляў сацыялістычны рэалізм, абараніў на ім кандыдацкую дысертацыю, доктарскую, займеў прафесара, шыкоўную кватэру, дачу, машыну.

Потым аказалася, што ніякага сацыялістычнага рэалізму няма, ён знік з ужытку.

А даброты пры тым прафесары засталіся.

## НЯІНЦЯРЭСНА

Яна ўсё жыццё працавала, як катаржная — арала, касіла, горбілася ў калгасе і рабіла на сваёй гаспадарцы. Адна гадавала чатырох дзяцей — мужа забралі ў тым трыццаць сёмым.

Дзеці выраслі, павыходзілі ў людзі, больш няма чаго жылы рваць, здаецца, цяпер можна і адпачыць. Яна сказала:

— А мне цяпер жыць няінцярэсна.

## ВЫХАВАННЕ

Калі ўваходзіла выкладчыца, а крэсла стаяла недзе ўбаку ад стала, адзін студэнт заўсёды кідаўся, падаваў ёй крэсла. Мы смяяліся з яго, лічылі падхалімам.

А ён проста быў з Заходняй Беларусі і выхаваны не так, як мы.

## СВЯТА

Само існаванне на зямлі лічыцца святам жыцця. А яна зрабіла злачынства і сапсавала сабе свята.

## РЭФЕРЭНДУМ

— Вось вы кажаце — рэферэндум, рэферэндум, як народ скажа... А ці такі разумны ўжо народ, ці правільна ён скажа? Трэба, каб разумныя, чэсныя людзі кіравалі народам, а не падстройваліся пад яго, бо ён у масе сваёй цёмны і можа пайсці за вялікім аферыстам, куды той яго ні павядзе. Рэферэндум, рэферэндум... Вунь як за Сталіна ўсе крычалі! Зрабі тады рэферэндум, усе б за яго... І за Гітлера так... І за таго Мао...

## ВЕРНАСЦЬ

— І ты ўсю вайну хавала яму вернасць? Заставалася дзяўчынаю?

— Хавала... Бо саграшы з адным, чым дакажаш, што не гуляла з усімі?

## НЕ ПАМЯНЯЎ

Роза ўсю вайну прабыла ў партызанах. Высокая, статная, бровы чорныя дугою, вясёлая, умела іграць на акардэоне.

Махорка ў партызан лічылася вялікім дэфіцытам. Каб пераманіць Розу ў свой атрад, камандзір суседняга атрада паабяцаў Розінаму камандзіру паўпуда махоркі.

Розін камандзір не памяняў Розу на махорку.

## РАЗУМНЫ

— І ты збіраешся за яго замуж? Высокая, прыгожая, а ён малы, па плячо табе!

— Але ён разумны...

## БЛЮЗКА

Дзяўчыне вельмі падабалася блюзка, якую насіла яе сяброўка — яўрэйка. Прыйшлі немцы, зрабілі гета, яна і кажа той:

— Аддай мне тваю блюзку, цябе ўсё роўна немцы заб'юць.

— А можа, уратуюся? — паспадзявалася яўрэйка.

— Наўрад...

Скончылася вайна, яўрэйка вярнулася дадому і пазнала на былой сяброўцы сваю блюзку.

— Аддай маю блюзку, — сказала яна. — Бачыш, я ўратавалася.

— Яшчэ трэба разабрацца, як ты ўратавалася, — адказала былая сяброўка. — Можа, немцам служыла...

## АТЭСТАТ

Калі прыйшлі немцы і загадалі ўсім яўрэям перасяліцца ў гета, я аддала сваёй сяброўцы Рыве Нісенбаўм свой атэстат аб сканчэнні васьмі класаў. Палічыла, што мне ён непатрэбны, мне тут усе ведаюць, ведаюць, што я не яўрэйка, а ў атэстаце напісана — беларуска, так што Рыве ён можа прыгадзіцца.

Рыва некалькі разоў прыходзіла да мяне з гета. Я спыталася ў яе, ці дапамагае ёй мой атэстат?

— Дапамагае, — адказала Рыва. — Немец возьме атэстат, пакруціць у руках, убачыць подпісы, пячатку і прапускае.

Апошні раз я бачыла Рыву ў кастрычніку сорак другога года.

У лістападзе, напэўна, не дапамог ёй і мой атэстат...

## БУТЭЛЬКА

Чалавек купіў паўлітра гарэлкі, падаўся да дзвярэй, на хаду засоўваючы яе ў торбачку. Ды раптам бутэлька выскачыла ў яго з рук, пляснулася на каменную падлогу і... не разбілася!

# ГРОДЗЕНСКІЯ ЛАЎРЭАТЫ



**Не! Не перавяліся яшчэ на Гарадзеншчыне таленты! І гэта асабліва прыемна сцвярджаць сёння, калі, згадзіцеся, стан нашага жыцця зусім не спрыяе іх развіццю. Але ж сапраўдны талент на тое і талент, каб ісці да поспеху не столькі дзякуючы лёсу, колькі насуперак яму. Тым больш у мастацтве, дзе шлях да зорак заўсёды цярністы.**

**Выкладчыкі і навучэнцы Гродзенскага музычнага вучылішча таксама, на жаль, не маюць магчымасці пахваліцца ні добрымі заробкамі, ні прыгожым будынкам, ні сучаснай матэрыяльна-тэхнічнай базай. Аднак, на шчасце, гэтае невясёлае "быццё" яшчэ не канчаткова "вызначыла" іх "свядомасць". Яна трымаецца на ўзроўні і нярэдка прыводзіць да дасягненняў, бясспрэчна вартых шчырага пачуцця гонару. Згадаем толькі некалькі знаных прозвішчаў: Андрэй Бандарэнка, Яўген Паплаўскі, Ігар Атраднаў, Валеры Жывалеўскі, Уладзімір Захараў. Дык тое ж калі было! — скептычна ўсміхнецца строгі чытач. Згодны, і прапаную, як кажуць прайсці па гарачых слядах новых гарадзенскіх знакамітасцяў.**

**Сакавік 1996-га і Міжнародны конкурс піяністаў у італьянскім горадзе Казале-Манферата. Прадстаўнічае журы, у склад якога ўваходзілі Дж. Сван (ЗША), М. Віт (Чэхія), Д. Рывейра (Аргенціна) і іншыя аўтарытэтныя музыканты, прысудзіла 3-е месца і званне лаўрэата навучэнцы III курса ГМВ Вользе Брылёвай. Віншаванні заслужана прымала і яе настаўніца Алена Лябецкая. Дарэчы, фінансавую дапамогу маладой выканаўцы ў ажыццяўленні той няблізкай вандроўкі ў Італію аказаў Беларускі фонд Сораса, які падтрымлівае яе і зараз: Вольга Брылёва атрымала грант як "Узыходзячая Сорасаўская зорка".**

**Чэрвень 1996-га: Першы міжнародны фестываль і конкурс гітарыстаў у Эўку (Польшча). Не менш прадстаўнічае журы пад старшынствам прафесара Варшаўскай акадэміі музыкі імя Ф. Шапэна Р. Балавушкі аддае перамогу Дзмітрыю Сёмаву (II курс ГМВ, клас У. Захарава). Ён атрымаў 3-ю прэмію, пры гэтым 1-я і 2-я не былі прысуджаны ўвогуле.**

**Дадам, што ў Казале-Манферата разам з В. Брылёвай у сваёй узроставай групе ўдала выступіў, стаўшы дыпламантам, колішні выпускнік ГМВ Уладзімір Лябецкі. А Эўк, акрамя Д. Сёмава, наведалі яшчэ тры гітарысты з Гродна: дуэт Андрэй Сяткоў — Дзмітрый Амельчанка заваяваў гран-пры ў катэгорыі ансамбляў, Уладзімір Захараў быў запрошаны як госць фестывалю і член журы. Дарэчы, паводле правілаў судзейства ён нават не меў права выстаўляць балы свайму вучню, а імя лепшага без абмеркавання вызначаў абсалютна непрадузяты... камп'ютэр.**

**Як бачым, ёсць каму сёння прадаўжаць добрыя традыцыі ў Гродзенскім музычным вучылішчы, ёсць каго вучыць, каму вучыць, вось толькі па вялікім рахунку няма дзе. Аднак апошнім часам засвяцілася надзея на здавалася б ужо недасягальным гарызонце. Загаварылі нарэшце пра пераезд са старога аварыйнага будынка ў новы. Праўда, не ў той, якога так чакалі. Ён, напэўна, яшчэ доўга будзе стаяць пакінуты ўсімі і, магчыма, паб'е ўсе рэкорды "даўгабуду". Пераезд плануецца пакуль у іншы, часовы. Але ж, як вядома, няма нічога больш пастаяннага, чым часовае. І тым не менш калектыў з энтузіязмам і хваляваннем рыхтуецца да наваселля, памятаючы пра тое, што ў новым доме вучылішча абавязкова павінны з'явіцца і новыя лаўрэаты. І яны будуць — бо не перавяліся яшчэ на Гарадзеншчыне таленты.**

**Аляксей САЛАДУХІН**

*На здымку: Выкладчык Гродзенскага музычнага вучылішча Уладзімір ЗАХАРАЎ і яго вучань — лаўрэат І Міжнароднага конкурсу гітарыстаў у Эўку (Польшча) Дзмітрый СЁМАЎ. Чэрвень 1996 г.*

Віншуем!

***Гутарка з Мікалаем ЯРОМЕНКАМ адбылася якраз напярэдадні святкавання ягонага сямідзесяцігоддзя. Якраз у год пяцідзесяцігоддзя яго сцэнічнай дзейнасці. Якраз на юбілей, таксама пяцідзесяцігоддзе, — Саюза тэатральных дзеячаў, які ганараваны артыст узначальваў пятнаццаць гадоў. Якраз напярэдадні пяцігоддзя Канфедэрацыі творчых суполак Беларусі, якую няўрымслівы грамадскі дзеяч узначальвае. Ну, з якога пытання вы б пачалі, Мікалай Мікалаевіч? Але ён апярэдзіў мае пытанні:***

# Мікалай ЯРОМЕНКА: "ДЗЕЛЯ ЛЮДЗЕЙ Я ЗРАБЛЮ ЎСЁ"

— Разумееце, часам кажуць: чаго ты, Яроменка, усё яшчэ ваюеш на грамадскіх барыкадах? Ты, маўляў, губляеш як мастак. Праўда, і я так часам думаю. Як думаю і пра тое, што наіграўся за жыццё, што пагаджаюся на чарговую ролю, напэўна, дарма. Бо мне, ведаеце, ужо нічога не трэба, калі весці гаворку пра мастакоўскія амбіцыі ды чалавечую здаволенасць жыццём. Званні, прызнанні... Але ўвесь пафас майго жыцця — старацца для людзей. Творчай інтэлігенцыі хутка аддадуць каля двухсот кватэр — іх выдзеліў Прэзідэнт. А Прэзідэнцкі фонд дапамогі маладым талентам? Мяне папрасілі зрабіцца старшынёю ягонае рады на грамадскіх пачатках. Я магу адмовіць? Зрабіць нешта для моладзі? Стварылі кінафакультэт у Акадэміі мастацтваў, а дыпломныя карціны няма як здымаць, няма чым абараняцца маладым рэжысёрам. Фонд і ім цяпер дапаможа... Два разы сустракаўся з кіраўнікамі Вярхоўнага Савета. Асабіста — з Шарэцкім. Просім адмяніць падаткі для творчых саюзаў, гэтымі грашыма бюджэт не ўратуецца, а сем тысяч спецыялістаў, прафесійнікаў ад мастацтва, якіх толькі творчы саюз падтрымаць ды ўбараніць можа, — загінуць. Я спытаўся ў аднаго буйнога чыноўніка: "Вы ведаеце, што я— камуніст? Вы — давяраеце мне?" Ён адказаў: яны ведаюць пэўна тое, што дзеля людзей я зраблю ўсё. Гэта для мяне, паверце, дарагія словы.

**— Мікалай Мікалаевіч, у прэсе вас называлі і чалавекам на ўсе часы, і — то лаючы, то ўхваляючы — сапраўды называюць камуністам. Камуністычная ідэя такая прыцягальная для вас?**

— Перш за ўсё я ніколі не быў рэтраградам. Не быў абмежаваным скрайнім кансерватарам, я шырока гляджу на свет. Дзе я толькі ні быў! Я чалавек назіральны, цікаўны, — перш за ўсё чалавек, а потым ужо — Мікалай, Яроменка, артыст, старшыня... Сацыялістычную ідэю лічу ідэяй боскаю. Гатовы паўтарыцца: адна рэч — ідэя, іншая рэч — яе ўвасабленне. І вынікі ўвасаблення. Мы ў сваёй гісторыі навязалі столькі вузлоў... Так дыскрэдытавалі — нават сябе. І потым — гэта звязана з маёй клятвай. Вы ведаеце, што я сядзеў у вязніцах і канцлагерах, сябра дзвюх антыфашысцкіх падпольных арганізацый. Я ім,сваім сябрам, даваў клятву: выжыву — буду камуністам. Мяне да 1964 года ў партыю не прымалі: палон, амерыканцы вызвалялі... Чытаў неяк данос на сябе, напісаны ён быў у парткамісію пры ЦК КПСС на імя Саломенцава. Там абгрунтоўвалася думка, што я — амерыканскі рэзідэнт. Не менш. Мы свята верылі ў ідэю. Мы ўзгадаваліся на "Чапаеве", на "Васілісе Прыўкраснай". У скрутныя трыццатыя, калі маці разышлася з бацькам ды засталася адна з двума дзецьмі, а я трымаў галубоў ды варагаваў з хлапечымі кампаніямі з суседніх вуліц, мы ўжо ведалі, што Радзіму давядзецца абараняць і рыхтаваліся яе абараняць... усім нашым мастацкім выхаваннем. Жылі цяжка, але — з інтарэсамі, з захапленнямі. Скончылася вайна і праз колькі месяцаў мне зраўнялася дзевятнаццаць...

**— А даводзілася вам згадваць, нанова перажываць ваенныя досведы, пераводзячы іх у досведы мастацкія? На сцэне?**

— У Коласавым тэатры, у Віцебску, іграў у "Юных мсціўцах" Хазанава і Гутковіча. Мне тады ўсё больш станоўчых герояў давалі, а тут сам папрасіўся сыграць здрадніка, Грачухіна, — ён сам тым часам сядзеў у Віцебскай вязні. А глядач прызвычаены да маёй харошасці. Шэраг сцэн — на апладыс-ментах. І калі пад фінал я ўзнікаў у кабінеце начальніка гестапа з дакладам, зала выдыхала: "Сволач якая!" А пасля прэм'еры "Юных мсціўцаў", калі сціпла так банкетавалі, адзін з вядомых акцёраў заўважыў, маўляў, што там Яроменка здраднікаў іграе, ён гэта насамрэч ведае, ён сам — такі... Агіднае было ўражанне.

**— А як перажылі смерць Сталіна?**

— Драматычна. Як шмат хто. Ён, — і гэта доўга сядзела ў галовах, — выйграў вайну. З ім звязвалі пасляваенны ўздым. Магчыма, цяпер мы таксама перабольшваем з адмаўленнем таго часу. Разумею цяпер, што ў Хрушчова з ягоным выкрыццём была пэўная палітычная кан'юнктура. Не схаваю, быў шчырым гарбачоўцам. Нарэшце, думалася, прыйшоў той, хто не толькі хоча, але і можа нешта змяніць. Я сустракаўся з ім асабіста: яны з Раісай Максімаўнай, як высветлілася, прыхільнікі нашай артыстычнай сям'і. Потым доўга перадавалі прывітанні... Прыемна, вядома. Мінуў час. У адным інтэрв'ю я не стрымаўся і ацаніў ягоную дзейнасць па раскіданні ды расцягванні дзяржавы, сказаў, што маім сябрам па падполлі таксама здрадзіў свой.

**— У вас вялікі аўтарытэт і папулярнасць сярод любых нашых кіраўнікоў. Вы карыстаецеся гэтым?**

— Як я карыстаюся, здаецца, ужо адказаў. Удакладню таксама, што катэгарычна не прымаю тэрмін "адраджэнне" ў дачыненні да нашай культуры і мастацтва. Бо ёсць і будзе — развіццё. Адраджэнне — гэта калі ўсё ледзь не да нуля даведзена і ледзь не з нуля пачынаецца. Ды хіба нулём быў Купалаўскі тэатр? Шырма? Цітовіч? Жыновіч? Александроўская? Насуперак або дзякуючы сістэме, строю, ладу, але — былі! Мне бліжэй вызначэнне "развіццё". Пяцьдзесят гадоў па цаглінцы нашу ў падмурак нацыянальнай сцэны. Я на ёй — пяцьдзесят гадоў! Больш за сто роляў сыграў у тэатры, зняўся больш як у шасцідзесяці карцінах. Я паўсюль прадстаўляю Беларусь як беларускі артыст Яроменка. Так, я прыхільнік славянскай супольнасці, на роўных і братэрскіх правах. У наўпроставым эфіры на БТ, калі я быў даверанай асобай Кебіча на выбарах, мяне спыталі, ці не збаюся, калі да ўлады прыйдзе Шушкевіч або Пазняк. Ці не папрашу ў сына палітычнага прытулку — у Маскве? Я адказаў, што памру ў Беларусі. Але памру стоячы. Я — стваральнік. Адзін з ініцыятараў міждзяржаўнай рады па культуры краін СНД. Быў першы кангрэс у Мінску — на жаль, не ўсё адразу атрымалася. Пафас кангрэса: нацыянальныя незалежныя культуры мусяць узбагачаць адна адну. Што ў гэтым благога? Ды я, адстойваючы гэта, большы беларус — большы за ўсіх тых, хто толькі мянціць ды балабоніць!

**— У вас багаты досвед кіраўніка Беларускага тэатральнага таварыства, потым — Саюза тэатральных дзеячаў...**

— Пятнаццаць гадоў. Дзесяць — на грамадскіх пачатках, потым аж за сто трыццаць рублёў у месяц. Гаспадарка дасталася, праўду кажучы, складаная.



Ларыса Пампееўна апошнія гады хварэла, людзі раздурыліся, збэсціліся... Яна шмат паспела зрабіць: адзін мастацка-вытворчы камбінат чаго варты! І калі я прыйшоў на яе месца, у ЦК мне далі... справу на 98 аркушах, я назваў яе пра сябе "Вайна і мір". Даведкі, пратаколы, ананімкі, лісты, разборы скаргаў... "Божа, куды я ўлез?!" — гэта была першая мая думка. Другая: гэта ж бухгалтэрыя, грошы, матэрыяльная адказнасць! Мусіў зрабіцца, як цяпер кажуць, крутым. Рыхтык як Ларыса Пампееўна. Ніводная капейчына без маёй візы нікуды не ішла. Займеў процьму ворагаў: два гады вывучаў бухгалтарскую справу. Парадак навёў. Бо ўсвядоміў, чым мушу займацца. Падабраў каманду. Выгнаў бухгалтара. Выправіў рэдактара "Тэатральнага бюлетэня"... творчасцю займацца: малады таленавіты хлопец, сядзіць, ліпіць, незадаволены жыццём... Цяпер гэта найвядомы паэт Уладзімір Някляеў, з якім жартуем з нагоды нашага знаёмства. Мелі 12 грамадскіх камісій па розных кірунках дзейнасці. Людзі працавалі па планах, прэзідыум зацвярджаў пратаколы, — ведаеце, гэта не лішне — кантраляваць. А я не люблю беспарадку вакол сябе. Я сам вельмі дысцыплінаваны. Пабудавалі Дом творчасці. Спраектавалі аздараўленчы комплекс. Ладзілі выязныя прэзідыумы ў тэатрах — добра ім дапамагалі кансультацыямі ды парадамі спецыялістаў. Амаль суткамі працаваў Дом мастацтва. А прынцып мой такі: калі кагосьці далучаю да супрацоўніцтва, я яму давяраю. І вымагаю валодання — прафесіяй, работай, навучанасці, налаўчонасці. Але пятнаццаць гадоў... Цяжка.

**— Але якраз тады, калі гэтага цяжару вы пазбыліся, вас абралі старшынёй Канфедэрацыі творчых суполак Беларусі...**

— Творчыя саюзы пры Савецкай уладзе не абкладаліся падаткамі. Сякая-такая, але была дзяржаўная палітыка. Прыбыткі прадпрыемстваў, што ўтвораны ды існуюць

# ПЛЁННАСЦЬ КАНТАКТАЎ

**Чытачы, неабыякавыя да нацыянальнага Адраджэння, ахвочыя лепей ведаць гістарычна-культурныя стасункі і ўзаемадачыненні Беларусі з іншымі краінамі, змаглі па вартасцях ацаніць зборнікі "Беларусіка-Albaruthenica", што выходзяць пад эгідай Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны, Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".**

**Не прайшоў, думаецца, незаўважаным і яго пяты, апошні па часе выхаду выпуск. Праўда, наклад выдання, на жаль, абмежаваны — усяго 700 экземпляраў.**

**Першую палову зборніка займаюць матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Культура беларускага замежжа", што праходзіла ў Мінску ў чэрвені 1994 года. Аб шырыні яе праблематыкі сведчаць хоць бы такія выступленні: "Культура павінна жыць і аб'ядноўваць нацыю" Р. Гарэцкага, "Праблемы вывучэння культуры беларускага замежжа" А. Сабалеўскага, "Нацыянальная ідэя ў замежным беларускім друку (па матэрыялах газеты "Беларус")" У. Конана, "Беларускі літаратурны рух у сучаснай Польшчы" С. Яновіча, "Роля беларускай эміграцыі ў зберажэнні і памнажэнні адраджэнскай ідэі" А. Каўкі, "Часопіс "Камэна" як папулярызатар беларускай літаратуры" А. Баршчэўскага, "Беларуская інтэлігенцыя на эміграцыі і чэшскае нацыянальнае адраджэнне" Л. Мірачыцкага...**

**Наступныя выступленні, як відаць з іх загалоўкаў, маюць больш канкрэтны характар, што надае мажлівасць глыбей адчуць значнасць пастаўленых праблем: "Да пытання перакладаў рэлігійных тэкстаў на беларускую мову" М. Сяднёва, "Традыцыі Прадславы ў беларускай паэзіі" У. Гніламёдава, "Выяўленчая роля паўтору ў творах Масея Сяднёва" С. Сачанкі, "Архетыпныя вытокі творчасці Тамары Стагановіч" С. Крыштаповіча, "Творчасць Сакрата Яновіча ў кантэксце беларускай навелістыкі" П. Васючэнкі, "Пяць гадоў дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Пецярбурзе" В. Грыцкевіча, "З культурнай спадчыны літоўскіх татараў" І. Канапацкага і іншыя.**

**У кнізе можна падрабязна пазнаёміцца і з матэрыяламі Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Беларуска-амерыканскія гістарычна-культурныя ўзаемадачыненні: традыцыі, сучасны стан, перспектывы" (таксама чэрвень 1994 г.). Гэтыя матэрыялы пададзены так, як яны прагучалі з вуснаў удзельнікаў у час работы дзвюх секцый — грамадазнаўчай і філалагічна-мастацкай.**

**На першай з іх выступалі: Г. Сяргеева — "Беларуская эміграцыя і славяназнаўства Паўночнай Амерыкі (50—90-ыя гады нашага стагоддзя)", В. Грыцкевіч — "Злучаныя Штаты Амерыкі ў творах падарожнікаў з Беларусі", Л. Званарова — "Патрыятычны напрамак ў расійскай і беларускай эміграцыі", В. Гапоненка — "Хто ёсць хто ў Амерыцы? (да стварэння біяграфічнага слоўніка дзеячаў навукі і культуры замежжа)", А. Ляднёва — "Удзел беларусаў у дзейнасці міжнародных і іншанацыянальных арганізацый ЗША і Канады"...**

**На філалагічна-мастацкай секцыі прагучалі паведамленні "Выявы амерыканскага жыцця ў творчасці Масея Сяднёва" С. Сачанкі, "Амерыка ў творах беларуска-амерыканскіх пісьменнікаў" З. Кіпель, "Успрыняцце амерыканскай літаратуры ў беларускім асяроддзі" І. Шаблоўскай, "Амерыканская драматургія на беларускай сцэне (1960—1980)" Ю. Стулава, "Кліўлендскі часопіс "Полацак" як пашыральнік нацыянальнай ідэі" Л. Мірачыцкага, "Вобразы індзейцаў у беларускай літаратуры і мастацтве" А. Сімакова і іншыя.**

**І як дапаўненне да гэтых публікацый — справаздача з "круглага стала" "Перспектывы беларуска-амерыканскага ўзаемадзеяння", на якім выступілі А. Анціпенка, Г. Ахраменка, Б. Сачанка, М. Кандрацюк (Варшава), В. Коўтун, А. Лапінскене (Вільнюс), М. Люцко, М. Залескі, М. Нікалаеў (Санкт-Пецярбург), Я. Запруднік (Нью-Йорк), В. Кушнер, Я. Гудман (Нью-Йорк). Зноў жа, гаворка мела шырокі характар і закранала шэраг пытанняў, што тычацца стасункаў беларусаў у свеце.**

**Завяршае выпуск рубрыка "З даследаванняў супрацоўнікаў Скарынаўскага цэнтра". Тут змешчаны артыкул Э. Дубянецкага "Беларускі нацыянальны характар: сутнасць і вытокі (да пастаноўкі праблемы)".**

Архіварыус

# "КАБ НЕ БЫЛО НЕДАКЛАДНАСЦЕЙ..."

## ЛІСТ МАКСІМА ТАНКА ДА УЛАДЗІМІРА КАЛЕСНІКА

**З не такога далёкага аспіранцкага жыцця тое памятаецца выразна. Можа, й таму, што быў зацікаўленай асобай, займаўся заходнебеларускай праблематыкай. Хаця і не толькі. Адным словам, прайшоў почут, што М. Танк у свой час даслаў вялікі ліст У. Калесніку, у якім падрабязна спыніўся на недахопах яго артыкула "Будзённы дзень з Максімам Танкам", змешчанага ў кнізе "Зорны спеў" (1975). Народны паэт Беларусі, старшыня Саюза пісьменнікаў рэспублікі, па водгуках усіх, хто яго ведаў — чалавек надзвычай зычлівы і памяркоўны, мяккі і душэўны і — таленавіты нацыянальны крытык і літаратуразнаўца, прызнаны аўтарытэт у вывучэнні гісторыі заходнебеларускай літаратуры, даследаванні творчасці самога М. Танка... Ужо тады гэты факт падаўся досыць неардынарным, амаль сенсацыйным.**

**У часе адной з нашых апошніх сустрэч і гутарак "пра ўсё" (ад 29 чэрвеня г.г.) М. Танк закрануў і гісторыю ўзнікнення згаданага ліста. Прызнацца, трохі здзівіла і адначасна ўзрадавала, што ён аказаўся амаль "пад рукой" у паэта, хоць і быў напісаны на самым прыпачатку 1978 года. Відаць, з водгуллем даўняга палемічнага запалу М. Танк прачытаў мне гэты ліст на адным дыханні, эмацыянальна, пафасна, робячы акцэнты на тым, што, на яго думку, было асабліва важным і характарыстычным, адхіляючыся, каменціруючы той ці іншы тэзіс вусна. Паэт аргументавана і доказна аспрэчваў шэраг сур'ёзных недакладнасцей аўтара ў падачы яго біяграфічнага фактажу даверасьнёўскага перыяду, галоўным чынам 30-х гадоў, у аналізе некаторых твораў... Такое, сапраўды, сустрэнеш не кожны дзень.**

**Без сумневу, ліст М. Танка не мог не зрабіць уражання на крытыка, які, адчуваючы віну перад паэтам і чытачамі, амаль адразу ўзяўся за дапрацоўку свайго артыкула. У лісце ад 23 красавіка таго ж года ён паведамляў М. Танку: "Пішу артыкул аб Вашых ранніх публікацыях для новага альманаха "Кніга", думаю там удакладніць факты і выправіць памылкі, што трапілі ў "Будзённы дзень"..."**

**Значна перагледжаным, у новым варыянце (некаторыя мясціны былі папраўлены, асобныя апушчаны) артыкул з'явіўся ў кнізе выбранага У. Калесніка "Лёсам пазнанае" (1982). Па ўсім відаць, наконт яго ў паэта і крытыка адбылася грунтоўная вусная размова, а можа, і не адна.**

**Характэрна, што, як сведчаць архіўныя дакументы, з многімі сваімі рукапісамі, нават тымі, якія толькі ўскосна, а то і зусім не тычыліся творчай дзейнасці М. Танка, у далейшым У. Калеснік папярэдне знаёміў народнага паэта, чыёй думкай-ацэнкай, дасведчанасцю і эстэтычным густам ён даражыў. Так было з яго раздзелам у "Гісторыю беларускай савецкай літаратуры", вядомым палемічным артыкулам пра Алеся Разанава і інш.**

**Ліст М. Танка, які тут прыводзіцца па магнітафонным запісе, шмат у чым павучальны не толькі для літаратуразнаўцаў, але і гісторыкаў, мовазнаўцаў, іншых даследчыкаў. Здымак паэта зроблены фотакарэспандэнтам газеты "Культура" Г. Жынковым у часе нашай размовы 29 чэрвеня, за месяц з нечым да смерці М. Танка.**

**Мікола МІКУЛІЧ**

Дарагі Уладзімір Андрэевіч!

Я ўсё збіраўся з Вамі пагаварыць аб некаторых недакладнасцях у Вашым артыкуле "Будзённы дзень...", але так нам і не ўдалося сустрэцца і пагаварыць на гэтую тэму. Таму я вырашыў пра ўсё гэта напісаць, бо, як кажа народная мудрасць, нават самае горшае чарніла — лепш, як самая найлепшая памяць. Перадусім, я яшчэ раз хачу шчыра падзякаваць за грунтоўнае даследаванне маёй творчасці. Самае галоўнае — Вы заўсёды ідзяце сваімі, яшчэ нікім не пратоpанымі сцежкамі, адкрываеце шмат новага ў творах, якія часта застаюцца па-за ўвагай крытыкі. Шкада толькі, што Вы не пазнаёмілі мяне раней з гэтым артыкулам, і я не змог дапамагчы Вам удакладніць некаторыя факты сваёй біяграфіі, пра якія я расказваў, калі мы ехалі ў Моталь, і якія, відаць, па віне дрогкай дарогі бязбожна пераблыталіся. І так:

1. У канцы 1931 года мы з Гарохам па сваёй ініцыятыве выдалі першы нумар "Пралому". Нумар гэты быў багата ілюстраваны Гарохам. Вокладка: на руінах турмы з чырвоным сцягам, азораны праменнямі сонца, стаіць рабочы. Друкавалі "Пралом" мы разам, бо і я пасля тэхнічных курсаў мог пісаць рознымі шрыфтамі, што мне потым прыдалося, калі працаваў над "Кратамі" ці па заданні ТК перапісваў турэмныя "грыпсы". Першы нумар "Пралому" зацікавіў "нацніка" (прозвішча не помню) і ён пераслаў яго ў Мінск. Матэрыялы з гэтага нумара потым увайшлі ў вядомую "Хрэстаматыю заходнебеларускай літаратуры", якая, здаецца, выйшла летам 1933 года ў Мінску і якая на нашым працэсе, як dowod rzeczowy супраць нас, ляжала на стале пракурора Пятроўскага. Другі нумар "Пралому" выйшаў у сакавіку 1932 года ўжо без удзелу Гароха, які выехаў з Вільні на пачатку 1932 года і ў гэты час, здаецца, ужо знаходзіўся па-за межамі Польшчы. Прадмову і ўсе артыкулы да гэтага нумара пісалі не мы, а іншыя таварышы, больш вопытныя ў палітычных справах, і "нацнік" — інжынер Аніскевіч, які ЦК КПЗБ на работу ў Вільню быў накіраваны з Прагі. Гэты нумар было толькі даручана друкаваць мне ў падпольнай друкарні на "Новым Свеце". Першы нумар выйшаў у колькасці 500 экземпляраў, надрукаваны на гектографе, які знаходзіўся на кватэры рабочага-маляра Цімафеева. Вось чаму другі нумар "Пралому" так адрозніваецца ад першага. З Гарохам мы не былі аднагодкамі. Ён быў старэйшы. І калі я вучыўся ў сёмым класе гімназіі, ён ужо пасля арыштаў рыхтаваўся да матуры.

2. Не разумею, чаму верш "Я гэту мову ўзяў сабе" гучыць стылізавана ў параўнанні з такім слабым і траскучым і ў нейкай меры пераймальным вершам, як "Прэч тыя песні"?

3. У Каляды я не мог быць летам 1932г.,



бо толькі ў ліпені выйшаў з Лукішак. А ў лістападзе вярнуўся з Савецкага Саюза і ў канцы кастрычніка гэтага года прыехаў у Вільню. У Каляды я быў два разы: у канцы 1932-га і на пачатку 1933 гадоў.

4. Страшэнна пераблытана ўся гісторыя з дзяўчынай, якая прывезла ў Кальчыцы літаратуру, сярод якой было і некалькі сот экземпляраў другога нумара часопіса "Пралом". У Вас мы з Калядой выступаем у ролі нейкіх акушэраў. Нічога гэтага не было. Калі адбываліся роды, мы з Калядой былі на другім канцы вёскі, занятыя рассылкай літаратуры. І толькі раніцой даведаліся аб гэтым здарэнні. Бабка, якая памагала парадзісе, была пераканана, што ва ўсім вінават Каляда, ад якога прыехала яго каханка. Мы і не разувяралі яе, бо гэтая версія была для нас найбольш бяспечная. На другі дзень, раніцой, дзяўчына з малым паехала ў Вільню. Усё гэта можа пацвердзіць В. Каляда.

5. Вельмі цікавы прыведзены Вамі камунікат паліцыі. Толькі і тут, па нейчай віне, укралася памылка, што я звольнены з турмы 11. IV. 1932 г. Якраз я тады напярэдадні Першага мая быў арыштаваны. Аб звальненні ў гэты час не магло быць і гутаркі. З Лукішак я выйшаў значна пазней, толькі пасля заканчэння следства. І яшчэ памылка: чамусьці ва ўсіх паперах і актах замест "Сівера" пісалі "Сіверс".

6. Адкуль Вы ўзялі, што суд 6—7 лістапада 1933 г. мяне звольніў? Выпісваю з актаў: "Серафім Лавор і Яўген Скурко на шэсць год, Ян Гарэлічонак і Міхал Хвалька — на 5 год. Мікалай Сіцька — на два гады, Сяргей Скурко — на шэсць год... Усе асуджаныя пазбаўляюцца ўсіх правоў грамадзянскіх, публічных і ганаровых на восем год".

Толькі праз паўгода апеляцыйны суд нам змяніў прыгавор: Сяргею Скурко далі тры гады, мне ўмоўна — два гады, а Сіцьку звольнілі. Гэта памылка, відаць, і змусіла Вас шукаць першага друкара "Крат" сярод актыву "Літаратурнай старонкі". Але аб гэтым — пазней.

7. Вобыск у мяне рабіў у Пількаўшчыне 20. VIII. 1934 г. старшы пастарунковы (камендант) Малюс і паліцэйскі Жэлязны, які і распісаўся пад пратаколам.

8. Трэба б было выправіць і наступную памылку: пасля допыту ў Паставах мяне не выпусцілі, а накіравалі ў Вільню на Лукішкі. Вось дакумент: "Тэлефанаграма N53, В/433. Камендант Дзяржаўнай паліцыі ў Паставах, пастарунак у Сватках, 19. VIII. 1934 г.. Г. 10. 35.На падставе загада пана пракурора XIII раёна АС у Вільні з дня 27 ліпеня 1934 г. ДЗ 279/34 загадваю неадкладна правесці хатнюю і асабістую рэвізію ў жыхара вёскі Пількаўшчына Мядзельскай гміны сына Яна і Дамінікі, народжанага ў 1912 годзе, западозранага з артыкула 97 КК. Незалежна ад вынікаў рэвізіі, названага неабходна затрымаць". І далей дапісана рукой: "Адвесці этапнай дарогай да мясцовай камендатуры". Подпіс: "Камендант павятовай дзяржаўнай паліцыі Манькевіч — малодшы камісар". І яшчэ дакумент: "На падставе загада пана пракурора 13 раёна АС у Вільні з дня 14. V. 1934 г., ДЗТ. 279/34 перасылаю да распараджэння пана суддзі затрыманага 20 жніўня г.г. у 10 гадзін раніцы Скурко Яўгена... Рашэнне сваё матывую тым, што Скурко Яўген вядомы органам паліцыі як актыўны дзеяч КПЗБ, апрача ўсяго, будучы ў астрозе на Лукішках, быў вядомы судовым колам як закаранелы віноўнік пісання шматлікіх грыпсаў. Паставы — 21 жніўня 1934 года".

Гэты дакумент апублікаваны нават у зборніку матэрыялаў КПЗБ, выдадзеным Інстытутам гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Копію гэтага дакумента мне калісьці прыслаў Я. Каросас. Дарэчы, самі Вы пісалі раней, што "не дабіўшыся прызнання, следчы распарадзіўся арыштаваць паэта і закаванага ў кайданы..."

9. Зноў жа, што да экспертызы графолагаў. У іх не было адзінай думкі. Эксперт на апеляцыйным судзе не згадзіўся з ранейшым заключэннем, аб чым і гаворыцца ў адным з дакументаў: "Суд, пазнаёміўшыся з характарам пісьма Скурко,сцвярджае, што паміж пісьмом з матэрыялаў суда і аўтэнтычным пісьмом Скурко існуе значная розніца". І гэта зразумела: грыпсы пісаліся іншай каліграфіяй.

10. Паўторнага арышту ў верасні 1934 г. не магло быць. Бо я ўжо са жніўня месяца сядзеў на Лукішках.

11. Дыялог з лукішскім стражнікам меў

Аляксандр КАПУСЦІН

# КРАПЛІНЫ ЖЫЦЦЯ



## ВЕЧНАСЦЬ І... ЧЭКІ

Быў званы святочны вечар. За акном — завея, мароз, а ў невялікім прадаўгаватым пакоі з чырванакветкавымі вазонамі на падаконніку — цёпла і ўтульна. Мякка свеціць ажурная люстра, аздобленая тонкімі хрустальнымі вісюлькамі. Ціха льюцца чароўныя гукі музыкі. За піяніна — над ім на сцяне рэпрадукцыя шышкінаўскага "Жыта" — сядзіць Марыя Іванаўна, гаспадыня кватэры. Прамая, строгая, у светла-зялёнай сукенцы з белым каўнерыкам. Яе доўгія жвавыя пальцы то імкліва бегаюць па клавішах, то кладуцца на іх павольнымі, грацыёзнымі, як узмахі крылаў лебедзя, рухамі рук. Пяшчотна цячэ сардэчная мелодыя рамanса. Гукі піяніна мякка зліваюцца з сакавіта-грудным, задумліва-журботным і нейкім поклічным голасам жанчыны.

**Что б всю ночь,**
**весь день мой слух лелея,**
**Про любовь мне сладкий**
**голос пел...**

Песня выклікае ў душы светлы, лірычны смутак, жаданне чагосьці высакароднага, узвышанага...

На хвіліну павісла прытоеная паўза. Марыя Іванаўна адкінулася на спінку крэсла, апусціла рукі. Злёгку схіліла набок прыгожую галаву з кароткімі каштанавымі кудзеркамі. Адпачывала. Мы, госці, уражаныя музыкай, пазіралі на яе, чакалі: яшчэ, яшчэ...

І піяніна азвалася зноў. Бессмяротнай, непаўторнай "Апасіянатай". Павольныя такты, прытоена-трывожныя плаўныя пераходы... І раптам — бурны каскад, мяцежны віхор страсных акордаў... Ды вось зноў гукі ўлагоджваюцца, робяцца сярэбрана-званлівыя і нібы празрыстыя, як веснія капяжы.

Я замёр у старым прадаўленым крэсле ў кутку пакоя. Мне яскрава, быццам наяву, калі мы з жонкай сонечным майскім днём у глыбокай трапяткой задуменнасці стаялі перад велічным помнікам, пабачыўся творца гэтых боскіх гукаў. Магутны, неадольны ніякай стыхіяй — забранзавелы ў старым самабытным парку ў Карлавых Варах. Шырока ступаючы цяжкім цвёрдым крокам, угнуўшы вялікую лабатую галаву, ён, пазбаўлены слыху фізічна, слухае сваю ўтрапёную чарадзейную душу, у якой нястрымнай геніяльна-творчай сілаю нараджаецца недаступная розуму, непаўторная гармонія ў вяках несціханых напеваў. А яго санаты і сімфоніі, поўныя і глыбокага трагізму, і веры ў перамогу дабра, справядлівасці, ляцяць, ляцяць скрозь рэвалюцыі і войны, скрозь апантаны тлум натоўпаў на плошчах і высакамоўную гаварыльню амбіцыёзных дэмагогаў у парламентах... Ляцяць, як жураўліныя ключы па-над палямі і рэкамі, лясамі і азёрамі, у вечнасць высокага чалавечага духу.

Я не заўважыў, як зноў наступіла паўза. Вывеў мяне з задумення хрыплаваты густы голас з другога кутка пакоя, дзе сядзелі двое:

— Ты, Хведар Цімафеевіч, атрымаў свае прыватызацыйныя чэкі?

## ПРАБЛЕМЫ

У трамваі было біткам. Яны сядзелі побач. Адзін — таўсмаценькі, з чырвонымі, як бураковыя скрылікі, шчокамі; другі — хударлявы, з прамым завостраным, нібы дзятлава дзюба, носам. Слова за слова — разгаварыліся.

— Тэлевізар, кажу... Мы думаем — яно так сабе: у небе ўсё як ветрам разносіцца. Аж — не-е... — "Бураковыя скрылікі" пакруцілі шыяй, нібы як муляў выцерты каўнер барановага кажушка. — Чуў, якія грошы каштуе адна хвіліна тэлевізійнай перадачы?

— Ага, мільёны, кажуць, — тоўстаязыка прашапялявіла "дзятлава дзюба".

— Але ж тэлевізійшчыкі грошай не шкадуюць.

— Ага, не шкадуюць. На сваім сметніку кожны верабей гаспадар.

— Што калі ўсюды па свеце рабаўніцтвы, забойствы, дыверсіі, наркабізнес... Праблемы! Дык дзе ты будзеш грошай шкадаваць!

— Ага, праблемы... Вунь і шашні тых рабацяг з мазолістымі рукамі, як іх... Прынца Чарльза і прынцэсы Дзіяны...

Трамвай тузануўся і стаў.

— Пасажыры, прашу пакінуць вагон! — заляскатаў пранізлівы, прыхавана-радасны голас трамвайшчыцы. — Машына сапсавалася, пойдзе ў дэпо!

Ускалыхнуўся гоман: "Узялі моду: чуць што — абы ад працы ўвільнуць!.."

— Хадзем, — тузанула "дзятлава дзюба" за рукаў барановага кажушка. — Ага, кожны верабей...

Астатак фразы завіс недзе ў іхняй стомленай падсвядомасці.

## ЯГО ДЗЕНЬ

Раніца зазірала ў шырокае акно заваблівай сонечнай светласцю. Пасля ўрачэбнага абходу Гаўрыла Спірыдонавіч урачыста аб'явіў:

— Усё, браткі, адгараваў. Чулі? Выпісваюся. Масажыстка апошні раз пагуляе сваімі боскімі ручкамі каля загрыўка ў мяне і — канец. — Ён абвёў позіркам палату. — Хутчэй бы ўжо. Вочы б мае не бачылі гэтых сцен... А па ўнуках засумаваў — жах! І яны, жэўжыкі, па мне. Дачка кажа, жыцця ёй не даюць: калі дзядуля прыедзе, калі дзядуля прыездзе...

Перад абедам прыйшла ў палату масажыстка, зрабіла яму масаж. Паабедаўшы, ён лёг адпачыць.

— Гаўрыла Спірыдонавіч, цябе ж выпісалі ўжо, — гукнуў да яго з суседняга ложка хрыплаваты натужлівы голас. — Ці забыўся — унукі зачакаліся.

— Выпісалі, але ж дзень яшчэ не скончыўся. Мой яшчэ па закону. От павячэраю і пайду.

Пасля вячэры ён нетаропка скінуў з сябе бальнічнае, апрануўся ў сваё, павязаў прыгожы, з серабрыстымі зорачкамі гальштук.

— Ну, не залежвайцеся, братва! Тут жа скіснуць можна!

Высокі, падцягнуты, у бездакорным светла-шэрым касцюме, ён выглядаў элегантна і прыстойна. Як і належыць Заслужанаму работніку культуры.

## СТРЭЛЫ З ЦАЦКІ

Раніцамі і па вечарах загарадны канал, абсаджаны клёнамі, бярозамі і ніцымі вербамі, аблеплівалі рыбакі. Куды ні глянь — усюды звесіліся вуды над вадою. Цёплым ціхім надвячоркам прыйшоў зведаць сваё рыбацкае шчасце і малады кучаравы бландзін у пярэстым спартыўным касцюме. З ім быў кірпаносы вяртлявы хлапчук гадоў пяці. А што дзіцяці рабіць?

Спагадлівы бацька купіў сыну цацачны пісталет. Рэч няхітрая: заклаў у гэтую зброю скленыя невялікія кружочкі паперы з порахам унутры, націснуў на спускавы кручок і — стрэл... Хлапчук мітусіўся па беразе туды-сюды, страляў то ў чаек, што лёталі над вадой, то ў сабак, якіх павыводзілі на прагулку цыбатыя, падстрыжаныя пад бокс дзяўчаты ў кароткіх вузкіх спаднічках, у замусоленых джынсах-шортах. На яго не звярталі ўвагі, быццам не бачылі і не чулі.

Нарэшце малому надакучыла гэтая аднастайнасць. Ён пацішу, як крадком, падышоў ззаду да бацькі, наставіў пісталет яму ў патыліцу: лясь, лясь!.. Над каналам імкліва, нібы выпушчаныя з лука стрэлы, праляцелі дзве качкі. Яны леталі на возеры, з якога пачынаўся канал, — там вывеліся і там сталі на крыло. Хлапчук пастраляў ім наўздагон.

Да канала падышла гладкая рабая карова. Яна аддзялілася ад статка, які пасвіўся каля блізкага ляска, прыпала да вады. Малец накіраваў на яе пісталет, з радасным бляскам у жвавых вачанятах раз за разам пачаў націскаць на спускавы кручок.

— Нельга, дзіцятка, страляць у кароўку, яна табе малачко дае. — Прыгорблены дзядзька з кійком у руках, даўшы жывёліне напіцца, завярнуў яе і пагнаў назад.

— Тата, а што рыбкі ядуць? — зноў павярнуўся хлапчук да бацькі.

— Што папала.

— А дзе яны спяць?

— Адчапіся, — незадаволена буркнуў бацька, — гуляй.

Прыгожа дагараў спякотны летні дзень. Шырока занялася вячэрняя зара. Залаціста-ружовы край неба зачароўваў зрок. Дзівіся — не надзівішся! Спартсмен не ўзнімаў галаву. Ён неадрыўна пазіраў на вуду і наструньваўся ўвесь, толькі патухлая цыгарэта ўздрыгвала ў сціснутых вуснах, калі паплавок пачынаў тузацца. А хлапчук усё ляскаў, ляскаў сваёй цацкаю, цэлячыся ў прыгожыя светлыя бацькавыя кучары...

## БАГАЧ

Абодва яны — пенсіянеры. Абодва маюць дачы. Толькі адзін за Мінскам у напрамку Маладзечна, другі — у бок Асіповіч. А жывуць у адным доме і калі прыязджаюць са сваіх "райскіх куткоў" у сталіцу, сустракаюцца, бавяць час у даверлівых дружбацкіх гаворках. Пра тое, як некалі працавалі інжынерамі на заводах, пра дачнае жыццё...

Падчас адной з сустрэч у Максіма Максімавіча, чалавека разгаворлівага, з аптымістычным характарам, Андрэй Андрэевіч заўважыў прытоеную засмучанасць.

— Што здарылася, Максім? — спытаў, з трывогай пазіраючы на сябра.

— Ат, — махнуў той рукою, — усё цераз пень калоду. Так рупіліся, спадзяваліся з жонкай, што хоць бульбы накапаем, а яна — як арэхі. — Ён паскроб патыліцу, глуха кашлянуў, нібы прачышчаў горла, каб яшчэ нешта прамовіць. — Але і то сказаць, хіба вырасце што на пустым?.. А калі які трактарыст і праімчыць з гноем міма калгаснага поля, дык то ж крадзены. Ды і не мне ён па кішэні, не тое што пенсіі — штаноў не хапіла б.

Андрэй Андрэевіч таксама паскардзіўся, што нічога не ўразіла на яго дачных сотках, і на тым яны разышліся.

Праз тыдзень Максім Максімавіч паўстаў перад сябрам у іншым настроі. Па інтэлігенцкай звычцы ён, як заўсёды, быў пад гальштукам, у паношаным, але старанна адпрасаваным цёмна-шэрым касцюме.

— Ну, Андрэй, налета я з бульбай буду, — сказаў сябру ці то са стрыманай радасцю, ці з прыхаваным сарказмам.

— Чаму ж такі ўпэўнены? — уважліва прыплюшчыў падпухлыя вочы Андрэй Андрэевіч.

— Аказваецца, і такія, як мы з табою, за дзень-два могуць разбагацець. На пашы за нашым дачным пасёлкам два дні пасвіўся калгасны статак. То я дзве тачкі, поўныя, з верхам, каравяку назбіраў. І больш прыдбаў бы, дык ледзь зазяваўся — іншы ў цябе наперадзе як з зямлі вырас.

## ПЕСНЯ Ў ВАГОНЕ

Жанчына свяцілася ціхай радасцю, калі расказвала мне гэтую гісторыю.

Эмілія Іванаўна доўга вагалася, ехаць — не ехаць? Цяпер такая дарагавізна ўсяго і ўсюды?.. І людзі памяняліся, пачужэлі адзін аднаму, і дом як кінеш?.. Аднак рашылася. Махнула рукою на ўсё, адцуралася хатніх клопатаў і паехала ў Крым у госці да сястры.

Гасцяванне было сціплае, але па-сваяцку душэўнае — даўно не бачыліся, жывучы ў розных краінах, засумавалі адна па адной.

Крыху асвойтаўшыся ў паўднёвым клімаце і нагаварыўшыся аб усім з родзічамі, Эмілія Іванаўна выбралася да мора. Паслухаць спрадвечна загадкавыя перамовы лагодных сініх хваль, пагрозлівы магутны шум пеністага прыбою... Для гэтага трэба было з Сакаў праехаць электрычкай у напрамку Еўпаторыі.

Вось тут і адбылася неспадзеўка.

За акном электрычкі праносіліся абцяжараныя ружовазалацістымі пладамі экзатычныя крымскія сады. Яны цешылі вока, лагодзілі душу. Абшары залівалі вясёлыя промні ранішняга сонца. Жанчына замілавана пазірала ў акно і раптам спахапілася: а білет?.. Пенсіянерка?.. Дык жа пенсіянерка яна іншай краіны. Ды і дома, на Беларусі, пенсіянер не пенсіянер — купляй білет. Не, заспяшалася, шугайда, і па правычцы во...

Эмілія Іванаўна збянтэжылася, занервавалася. Старалася супакоіць сябе думкай: "Што ж, заплачу штраф, калі так". Але заспакаення не наступіла: ці возьмуць жа "зайцамі"? Украінскіх купонаў у яе не было.

І трэба ж — пасля другога прыпынку ў вагоне з'явіліся кантралёры. Служкі чыгункі, пстрыкаючы кантралёрскімі шчыпчыкамі, рухаліся адзін з аднаго канца вагона, другі з другога. Жанчына сядзела, як скамянелая, гарэла ад сораму.

Суседкамі яе былі дзве сярэдняга веку кабеты ў квяцістых кофтах. Яны везлі ў вялікіх чарацяных кошыках садавіну — відаць, на пляж прадаваць. Спакойна, без лішніх эмоцый перагаворваліся пра цэны ў Саках і Еўпаторыі. Пабачыўшы кантралёраў, змоўклі, тоўстыя загарэлыя рукі іхнія закапашыліся ў фалдах шырокіх спадніц. Кабеты падаставалі зялёна-шэрыя квіткі і сядзелі са строгім незалежным выглядам. "Скрыжуюць зараз на мне свае асуджальныя позіркі", — мільганула ў Эміліі Іванаўны думка, і ёй стала яшчэ больш непамысна.

Кантралёры сышліся каля іх.

— Тут прашу білеты! — стрымана-ўладным тонам запатрабаваў мажны, пажылы, з вусамі запарожскага казака.

— Ведаеце, я спяшалася... Я заплачу штраф, раз так здарылася, — залепятала Эмілія Іванаўна, дастаючы з сумкі "зайцоў". — Колькі плаціць?

Другі кантралёр, малады, высокі, у шыкарных залацістых акулярах тонкай работы, ступіў адысці, ды нечага перадумаў.

— А гэта што ў вас? — паказаў вачамі на пенсійнае пасведчанне, якое Эмілія Іванаўна, сама таго не заўважыўшы, міжвольна дастала разам з грашамі.

— Гэта... Дык яно беларускае.

У канцы вагона, адкуль час ад часу чуўся малады вясёлы смех, заспявалі:

**Знов зозулі чути голос**
**в лісі,**
**Ластівки гнідзечко звили**
**з стрісі...**

Песня прагучала дысанансам да настрою Эміліі Іванаўны і тым не менш кранула ў яе душы нейкую чуллівую, лагодна-звінячую струну. Любіла жанчына гэтую шырока — "от Москвы до самых до окраин" — вядомую песню і слухаць, спяваць.

Малады кантралёр зіркнуў у бок спевакоў, ажно шкельцы акуляраў бліснулі. "Запарожскі казак" таксама глянуў туды. І зноў да Эміліі Іванаўны:

— Пакажыце?

Узяў пасведчанне, з начальніцкай нетаропкасцю разгарнуў. Раптам канцы доўгіх пышных вусоў яго зварухнуліся ад стрыманай прыветлівай усмешкі.

— Ласкава запрашаем, — сказаў ён, вяртаючы пасведчанне.

Суседкі Эміліі Іванаўны пераглянуліся. Адна ціха ўсклікнула:

— Паглянь ты!

Малады кантралёр нялоўка (відаць, не служыў у войску) ускінуў руку да казырка форменнай фуражкі — аддаў чэсць госці з Беларусі і заспяшаўся туды, дзе спявалі.

А па вагону разносілася:

**Вівчаря в садочку,**
**В тихому куточку**
**Жде дівчина, жде.**

ЛіМ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ
Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

Газету рэдагавалі:

| | |
|---|---|
| Х.Дунец | (1932-35) |
| І.Гурскі | (1935-41) |
| А.Куляшоў | (1946-46) |
| М.Горцаў | (1947-49) |
| П.Кавалёў | (1949-50) |
| В.Вітка | (1951-57) |
| М.Ткачоў | (1957-59) |
| Я.Шарахоўскі | (1959-61) |
| Н.Пашкевіч | (1961-69) |
| Л.Прокша | (1969-72) |
| Х.Жычка | (1972-76) |
| А.Асіпенка | (1976-80) |
| А.Жук | (1980-86) |
| А.Вярцінскі | (1986-90) |

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА: Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ — першы намеснік галоўнага рэдактара, Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП — намеснік галоўнага рэдактара

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 332-461
наміснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985
літаратурнага жыцця — 332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 331-985
паэзіі і прозы — 332-204
музыкі — 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153
выяўленчага мастацтва і ахоўы помнікаў — 332-462
навін — 332-462
мастацкага афармлення — 332-204
фотакарэспандэнт — 332-462
бухгалтэрыя — 268-640

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4428
Нумар падпісаны 18.7.1996 г.
Заказ 3586/Г

П 123456789101112
М 123456789101112